Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 32 (4832) 14 жніўня 2015 г.



Паэтычная група крыві

4



Верлібр як дыягназ

6



Збіраемся ў Шчучын!

8



Ён малюе неба…

16

## Пункцірам

✔ У сталічным кінатэатры «Цэнтральны» адкрыўся фестываль пакістанскага кіно. Была паказана рамантычная драма — фільм «Без слёз», выпушчаны нядаўна ў сусветны пракат і заснаваны на аповедзе пакістанскай пісьменніцы Фархад Ішціяк.

✔ У Беларусі з'явіцца Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў. Прадугледжваецца, што новая ўстанова будзе створаная пасля зліцця дзяржаўнай установы культуры «Творчыя майстэрні "Цэнтр сучасных мастацтваў"» і Музея сучаснага выяўленчага мастацтва.

✔Узорна-паказальны аркестр Узброеных Сіл Беларусі стане ўдзельнікам Міжнароднага ваенна-музычнага фестывалю «Спаская вежа», які пройдзе з 5 па 13 верасня на Краснай плошчы ў Маскве. Фэст рэгулярна праводзіцца з 2007 года па распараджэнні Прэзідэнта Расіі. Гэтым разам на працягу дзевяці вечароў гледачы ўбачаць яркае і маляўнічае шоу, удзел у якім пацвердзілі 26 калектываў з 14 краін.

✔Сёмы па ліку фолк-фестываль «Камяніца» пройдзе 5 верасня на тэрыторыі Музея народнай архітэктуры і побыту пад Мінскам. «Камяніца» ўжо даўно перастала быць проста музычным фэстам. «Гэта месца сустрэчы ўсіх, каму цікавая нацыянальная культура ў самых розных яе праявах», — падкрэсліў каардынатар фестывалю Сяргей Чагрынец.

✔ Конкурс патрыятычнай фатаграфіі «Я ганаруся, што я з Беларусі» стартаваў у Гомельскай вобласці. Каб стаць удзельнікам акцыі, трэба прадаставіць здымкі, якія змяшчаюць элементы атрыбутыкі нацыянальнай беларускай культуры, і зробленыя ў месцы, якое адлюстроўвае нацыянальны каларыт або нацыянальныя асаблівасці.

✔ У Пружанскім раёне плануецца стварыць музей пейзажыста Станіслава Жукоўскага. Аснову экспазіцыі, што размесціцца ў аграгарадку Вялікае Сяло ў сядзібе «Жураўлінае», складуць работы сучасных мастакоў, якія пішуць у стылі Жукоўскага. Акрамя таго, экспазіцыя будзе прысвечаная жыццю самога мастака, які 140 гадоў таму нарадзіўся ў суседняй вёсцы Старая Воля.

✔ Выстаўка работ майстроў па мастацкім вышыванні шаўковымі стужкамі адкрылася ў галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці. Прадстаўлены аўтарскія работы Ірыны Жукавай і яе вучняў — больш як 100 экспанатаў. Частку экспазіцыі складаюць карціны ў фармаце 3D, напісаныя акварэллю і вышытыя шаўковымі стужкамі.

✔ У гістарычным і культурным цэнтры сталіцы — каля Ратушы — у жнюні адбудзецца цыкл канцэртаў «На біс». У праграме будуць прадстаўленыя ўжо ўпадабаныя гледачам калектывы і выканаўцы, якія сёлета бралі ўдзел у свяочных мерапрыемствах летняга музычна-турыстычнага сезона. Выніковыя канцэрты па традыцыі пройдуць з 20.00 да 22.00.

ISSN 0024-4686

9 770024 468001 15032



Фота Кастуся Дробава.

Сустрэча пісьменніцы Кацярыны Хадасевіч-Лісавой з чытачамі падчас акцыі «Лета з добрай кнігай».

# Кніжная пара года

Незвычайны марафон кніжных прэзентацый і сустрэч з пісьменнікамі прайшоў у сталічным Доме кнігі «Светач». Дзесяць гадзін, адзінаццаць аўтараў, зніжкі, падарункі, сюрпрызы для маленькіх і дарослых чытачоў — і гэта далёка не ўсе складнікі «Лета з добрай кнігай». У якасці арганізатараў і ініцыятараў акцыі выступілі ААТ «Белкніга», Выдавецкі дом «Звязда» і выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Пагадзіцеся, не кожны дзень у кнігарні пабачыш пісьменніка, які распавядае пра свае кнігі, раздае аўтографы і ахвотна адказвае на пытанні чытачоў. Напэўна, таму акцыя «Лета з добрай кнігай» прыцягнула шмат увагі з боку наведвальнікаў. У кнігарні нават прызналіся, што не было адмысловай мэты атрымаць камерцыйны поспех ад продажу выданняў (у гэты дзень нават былі зніжкі на кнігі), такая маштабная імпрэза была хутчэй нагодай для больш блізкага знаёмства аўтараў і чытачоў. І, думаецца, знаёмства адбылося.

Распачала марафон дзіцячая пісьменніца Кацярына Хадасевіч-Лісавая. Яна распавяла, што спачатку пісала ў асноўным для дарослых, але калі нарадзіўся сын, звярнула ўвагу на творы для дзяцей, пачала пісаць казкі. Так з'явіліся «Казкі сіняй падушкі» і «Казкі сівой даўніны». Разам з яе сынам «растуць» і героі твораў пісьменніцы, і не так даўно ў Кацярыны выйшла аповесць для падлеткаў «Код геніяльнасці» — пра першае каханне.

Пра свае новыя кнігі для дзяцей распавядалі ў «Светачы» таксама паэтка Ніна Галіноўская, укладальнік зборнікаў-хітоў «Лучынка» і «Зярнятка» Зося Кустава, празаік Сяргей Давідовіч. Алена Церашкова пазнаёміла наведвальнікаў кнігарні з новым унікальным праектам — слоўнічкам «Англійская мова: слова за словам», які складзены з чатырохрадкоўяў, што дапамогуць маленькім чытачам запомніць пакуль чужыя і невядомыя словы англійскай мовы.

Паэтычна-лірычную частку марафону склалі выступленні паэтаў Міхася Пазнякова, Віктара Шніпа, Дзмітрыя Пятровіча, Алеся Камоцкага. Дарэчы, Дзмітрый і Алесь зачаравалі прысутных не толькі выдатнымі вершамі, але і песнямі, якія выконвалі пад гітару. Больш сур'ёзнай, але не менш цікавай атрымалася сустрэча з даследчыкам літаратуры, кандыдатам філалагічных навук Анатолем Вераб'ём. Анатоль Леанідавіч дазволіў гасцям імпрэзы зазірнуць у творчую лабараторыю прафесійнага літаратуразнаўцы і распавёў пра падрыхтоўку і выданне 25-томнага Збору твораў, бадай, самага вядомага і любімага многімі беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча.

А вось паэтку і дзіцячую пісьменніцу Таццяну Сівец, сустрэча з якой завяршала акцыю «Лета з добрай кнігай», гледачы не адпускалі аж паўтары гадзіны. Таццяне задавалі шмат пытанняў пра новыя кнігі, пошук натхнення і ўвасабленне задумак у жыццё.

Думаецца, акцыя «Лета з добрай кнігай» будзе месц працяг, бо галоўнай мэты — пазнаёміць аўтараў і чытачоў, даць ім магчымасць пагутарыць у сяброўскай і добразычлівай атмасферы — арганізатары марафону дасягнулі. Хутка лета скончыцца, скончацца канікулы і адпачынкі, але гэта не значыць, што не будзе часу, каб чытаць і сустракацца з любімымі пісьменнікамі. Для цікавых кніг і цёплых сустрэч любая пара года — добрая.

Марына ВЕСЯЛУХА

## Дайджэст

• Стаў вядомы лонг-ліст намінантаў на Букераўскую прэмію. Нагадаем, што цяпер прэтэндаваць на яе можа ўсякі аўтар незалежна ад грамадзянства, калі толькі ён піша на англійскай мове. Са 156 намінантаў адабраных 13 (з Вялікабрытаніі, Ірландыі, ЗША, Ямайкі, Нігерыі, Індыі і Новай Зеландыі). Імёны фіналістаў будуць агучаныя 15 верасня, пераможца — 13 кастрычніка.

• Абраная Сусветная сталіца кнігі 2017. Ёю стаў галоўны горад Гвінеі Канакры. Афіцыйна кніжная эстафета пяройдзе да яго 23 красавіка 2017 года. Па словах экспертаў ЮНЕСКА, гэты горад быў абраны невыпадкова: Гвінея зрабіла велізарны ўнёсак у бітве з непісьменнасцю, а таксама працягвае глабальную прапаганду літаратуры.

• Супрацоўнікі Брытанскай бібліятэкі алічбавалі першую версію казкі Льюіса Кэрала «Аліса ў краіне цудаў» са шматлікімі фрагментамі, якія калісь прыбралі выдаўцы. Прагледзець першапачатковы варыянт казкі можна на афіцыйным сайце Брытанскай бібліятэкі.

• На сядзібе Рыгора Барадуліна ва Ушачах прайшоў дваццаць трэці пленэр Цэнтра імя Язэпа Драздовіча. Яго наведалі каля трыццаці беларускіх мастакоў, а таксама госць з Кітая Сянь Шау. Па заканчэнні пленэра зладжаная выстаўка, якая будзе падарожнічаць па розных гарадах Беларусі. Акром таго, скульптары Элеанора Данэсевіч і Яўген Малыш абяцаюць зрабіць драўляную скульптуру Рыгора Барадуліна, што будзе знаходзіцца ў будучым музеі паэта.

• Брытанскія навукоўцы вынайшлі формулу, з дапамогай якой можна вылічыць забойцу ў раманах Агаты Крысці. Для гэтага яны даследавалі 27 раманаў пісьменніцы. Так, Агата Крысці выкарыстоўвае негатыўныя інтанацыі, калі апісвае жанчыну-злачынца, у той час як мужчын часцей за ўсё апісвае нейтральна ці пазітыўна. Калі ахвяра гіне ад задушэння, забойца зазвычай мужчына. Калі падзеі разгортваюцца ў асабняку, забойца ў 75% — жанчына. Вельмі часта ахвяра аказваецца родзічам ці сужэнцам забойцы.

• Новая экранізацыя рамана Міхаіла Шолахава «Ціхі Дон» чакаецца ўвосень. Гэтым разам галоўныя ролі выканалі Яўгеній Ткачук і Паліна Чарнышова, а рэжысёрам стужкі стаў Сяргей Урсуляк. Падчас кінафестывалю, што прайшоў у Выбаргу, ён распавёў, што фільм зняты і зманціраваны, але пакуль не агучаны. Складаецца стужка з 14 серый, выйдзе на канале «Расія».

• У італьянскім горадзе Сартэана прайшоў турнір па квідзічы. Перамагла Францыя, разбіўшы Вялікабрытанію з лікам 90/50. Гульню, народжаную фантазіяй Джоан Роўлінг, асабліва палюбілі ў ЗША і Канадзе. Гульцы ў турнірах задзейнічаюць 4 мячы. Верхам на мётлах спартоўцы бегаюць па полі і забіваюць галы.

• Напрыканцы 2015 года выйдуць раней не друкаваныя творы Стругацкіх у 33-х тамах. Яны ўключаць дзённікі, асабістыя лісты, малюнкі, аповесці і апавяданні. Кіраўнік Фонду братоў Стругацкіх Сяргей Арно паведаміў, што да друку ўжо гатовыя 10 тамоў.

• У сеціве апублікуюць раней невядомае апавяданне Фрэнсіса Скота Фіцджэральда. Твор пад назвай «Тэмпература» нечакана знайшлі ў архівах Пристанскага ўніверсітэта. Апавяданне датуецца 1939 годам, аб'ём — 8 тысяч слоў. Галоўным героем твора з'яўляецца пісьменнік Эмет Монсан, што жыве ў Лос-Анжалесе і пакутуе на алкагольную залежнасць. Відавочна, апавяданне мае аўтабіяграфічны характар. Знайшоў яго рэдактар часопіса *The Strand* Эндру Джылі. З яго словаў, твор — «дзівацкая камедыя з дыялогамі ў стылі Вудхауса, рамантычная і крыху трагічная». Сваю знаходку ён пракаментаваў так: «Я быў уражаны тым, наколькі аповед смешны і займальны. Калі мы думаем пра Фіцджэральда, згадваем выключна трагічныя раманы. Прыкладам, «Вялікі Гэтсбі» і «Ноч пяшчотная», але «Тэмпература» паказвае, што ён быў аднолькава ўмелы і ў кароткіх гісторыях, калі здолеў стварыць высокую камедыю». *The Telegraph* паведамляе, што «Тэмпература» будзе апублікаваная ў сеціве ўжо ў лістападзе.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Традыцыі працягваюцца

**Шмат зроблена апошнім часам на Магілёўшчыне дзеля прапаганды літаратурнай спадчыны. Шэраг імпрэз, прысвечаных юбілеям пісьменнікаў-землякоў Васіля Карпечанкі, Апанаса Палітыкі, Сяргея Кісялёва, Алеся Пруднікава, Аляксандра Балдоўскага, Людмілы Шадукаевай, Яўгена Булавы, Пятра Прыходзькі, Міхася Карпенкі, Віктара Ракава, Валянціна Крыжэвіча ў межах літаратурнага календара «Юбіляры месяца». Літаратурныя чытанні імя Максіма Гарэцкага, Аркадзя Куляшова, Івана Чыгрынава, Аляксея Пысіна. Сёлета Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ прысудзіла літаратурную прэмію імя Івана Чыгрынава празаіку з Крычава Аляксандру Балдоўскаму за кнігу нарысаў «Цэмент і людзі», якая выйшла з друку летась.**

У вобласці праводзяцца разнастайныя літаратурныя конкурсы. Сумесна з мясцовай абласной арганізацыяй Беларускага таварыства інвалідаў па зроку ў сакавіку праведзены абласны літаратурна-песенны конкурс «Ветразь надзеі», прысвечаны памяці празаіка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Мікалая Лук'янава (1924 — 2004).

Цяпер Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ і Магілёўскае гарадское аддзяленне Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Рускае таварыства» пры падтрымцы Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь праводзяць Міжнародны літаратурны конкурс да 100-годдзя з дня нараджэння Канстанціна Сіманава і 70-годдзя Вялікай Перамогі.

Багата мерапрыемстваў і для моладзі. Вялікую цікавасць выклікала, да прыкладу, сустрэча ў абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна з паэтамі-пачаткоўцамі «Маладыя галасы», што прайшла ў сакавіку і была прысвечана Сусветнаму дню паэзіі.

Таленавітыя маладыя аўтары выяўляюцца найперш падчас літаратурных конкурсаў. У маі ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна адбылося ганаровае ўручэнне зборнікаў вершаў «У нашай памяці жыве» маладым паэтам Магілёўшчыны. Кніжка выдадзена абласной бібліятэкай сумесна з абласным аддзяленнем СПБ па выніках сумеснага літаратурнага конкурсу, прысвечанага 70-годдзю Вялікай Перамогі і 95-годдзю з дня нараджэння выдатнага паэта-франтавіка Аляксея Пысіна. Усяго зборнік уключае вершы 37 маладых аўтараў.

Сярод канкурсантаў акрэсліўся шэраг маладых паэтаў і празаікаў, якія могуць скласці нашу літаратурную змену. З першымі паэтычнымі зборнікамі ў СПБ нядаўна прыняты Наталля Міхальчук з Магілёва, Наталля Азаранка з Касцюковіч, Жанна Усціпава з вёскі Гарбавічы Чавускага раёна. Сёлета ў мінскім выдавецтве «Харвест» выйшаў першы зборнік вершаў «Вечная вясна» маладой журналісткі са Шклова Вольгі Данілавай, першую кнігу вершаў і п'ес "Шчасце" маладой магілёўскай аўтаркі Вольгі Бяловай выпусціла інфармацыйнае агенцтва «Магілёўскія ведамасці».

Не застаецца па-за ўвагай і літаратурная вучоба моладзі. Авалодаць азамі літаратурнага рамяства і майстэрства можна на факультэце славянскай філалогіі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова ў літаб'яднанні «Натхненне». Даўно працуе літаратурнае аб'яднанне «Магістраль» пры Доме культуры Магілёўскага аддзялення Беларускай чыгункі, пры каледжы мастацтваў. Апошнім часам шырока разгортвае сваю дзейнасць літаратурнае аб'яднанне пры Магілёўскім дзяржаўным універсітэце харчавання. Сёлета да юбілею Вялікай Перамогі літаб'яднанне выдала кнігу паэзіі і прозы «Пераможнае ўра». Ды і ў раённых цэнтрах такіх літаратурных суполак шмат, яны існуюць пры раённых і гарадскіх газетах, установах культуры і адукацыі. Шмат дзе імі кіруюць сталыя аўтары, якія ўваходзяць у наш творчы саюз. Кансультацыі літаратурная моладзь штодня атрымлівае і ў нашым пісьменніцкім аддзяленні.

Сёлета адбыліся прэзентацыі новых кніг нашага пісьменніцкага аддзялення: «Клімаўчане — удзельнікі Сталінградскай бітвы» Аляксея Кажамякі ў Клімавічах, у Магілёве — кнігі нарысаў быхаўчаніна Міколы Леўчанкі «Сузор'е герояў».

З новымі кнігамі да чытачоў выйшлі паэты Міхаіл Уласенка, Ніна Кавалёва, Наталля Міхальчук, празаікі Яўген Булава, Мікалай Барысенка, Віктар Арцем'еў, Уладзіслаў Кавалёў. Вялікую цікавасць выклікаў зборнік гістарычных нарысаў Мікалая Барысенкі «Рэха вялікай вайны ва ўсходняй Беларусі (1914 — 1918)», якую выпусціла інфармацыйнае агенцтва «Магілёўскія ведамасці».

**Уладзімір ДУКТАЎ,**
**старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# З кнігай — у Заслаўе

Нягледзячы на спёку, што ўсталявалася ў краіне ў жніўні, у гарадскую бібліятэку старажытнага горада Заслаўе, які напрыканцы месяца будзе святкаваць 1030-годдзе з дня заснавання, завіталі ўдзельнікі рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай». Сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі і ўдзельнікі літаратурнага клуба «Выток» (г. Дзяржынск) прыехалі не толькі падзяліцца сваёй творчасцю, але і павіншаваць сяброў і жыхароў горада з юбілейнай датай. Пасля прывітання дырэктара бібліятэкі Жанны Салаўёвай сустрэчу пачала Ірына Карнаухава, намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, кіраўнік народнага клуба кампазітараў і паэтаў Міншчыны «Жывіца». Рэспубліканская акцыя, як адзначыла Ірына Карнаухава, праходзіць на Беларусі другі год, знаёміць чытачоў з аўтарамі і новымі выданнямі. Выступілі члены СПБ: мясцовая жыхарка Святлана Быкава, Уладзімір Цанунін з Вілейшчыны, Людміла Круглік і Рэгіна Рэўтовіч з Дзяржынска. Слухачы, сярод якіх былі ўдзельнікі літаратурна-паэтычнага клуба «Сузор'е» г. Заслаўя, змаглі пазнаёміцца з калегамі — паэтамі Дзяржыншчыны.

Напрыканцы Ірына Карнаухава падарыла новыя кнігі Заслаўскай бібліятэцы.

**Інна КУЗІНА**

# Прынятыя ў СПБ



**Рыгор Уладзіміравіч БАБЧАНОК**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 24 сакавіка 1957 года ў в. Леніна Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію ў г. Горкі. Працаваў галоўным заатэхнікам, цяпер — дырэктар саўгаса «Камуніст» Ельскага раёна Гомельскай вобласці. Аўтар паэтычных зборнікаў «Асалода» (2012) і «Вяртанне» (2014).



**Вольга Іванаўна ТАРАСЕВІЧ**

*Секцыя прозы*

Нарадзілася 19 лютага 1977 года ў Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працавала карэспандэнтам у айчыннай перыёдыцы, намеснікам галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Обозреватель». Працуе як сцэнарыст праектаў для расійскага тэлебачання. Аўтар некалькіх дзясяткаў раманаў.

# Прадметная геаграфія

**Выстаўка фатаграфій «Пункт гледжання» Аліка Замосціна адкрылася ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага. Экспазіцыя ўключае 36 работ фотамастака, якога культуролаг, мастацтвазнаўца Іна Шайхатовіч назвала «рэжысёрам імгнення, стыхійным рамантыкам і безумоўным рэалістам».**

У кожным са здымкаў Аліка Замосціна схавана секунднае, але вельмі дэталёвае адчуванне жыцця. Скрозь каменную сцяну прабіваецца сухая расліннасць («Слёзы Сцяны Плачу»). У пабітым збанку вырастае малады зялёны куст — насуперак старасці, кажучы пра новае жыццё («Адзінота»). Два вусені перабіраюцца з чорнай паласы асфальту на жоўтую, нібы трапляючы ў іншы свет альбо пачынаючы лёс нанова («Пешаходы). Гнілы яблык размясціўся побач з палітрай і пэндзлем, спадзеючыся за кошт фарбаў здабыць сабе другое нараджэнне.

Асобныя фатаграфіі Аліка Замосціна можна назваць паэзіяй садавіны (без гумару!), а іншыя — славаю чалавечым рукам. Глыбока расчараваны ў жыцці перац, разрэзаны напалам, нібы крычыць, з дакорам гледзячы на людзей. Насенне граната згрупавалася ў шэрагі, сімвалізуючы адзінства. Дагледжаныя рукі сціскаюць то чорна-белы лімон, то яркі абрыкос («Спакуса»). Усё гэта — нібы рыскі, накіды, навелы, фота, якія абсалютна не прэтэндуюць на маналітнасць, маштабнасць успрымання.

Сустракаюцца і больш паўсядзённыя прыродныя фотазамалёўкі: паркавая алея адводзіць гледача ўглыб снежнай прасторы, вада разбіваецца аб скалы, купалы храма сустракаюць світанак, вуліца Нью-Ёрка патанае ў аўтамабільнай смузе.

Некаторыя работы гучаць як думкі-афарызмы, прычым гэта бачна як у назве, так і ў мастацкім выкананні. «Працягваючы рукі да зорак, людзі часта забываюць пра кветкі пад нагамі», — «кажуць» раскіданыя ў траве рамонкі. «Думай пра сэнс, а словы прыйдуць самі» — ідэя, якая пранізвае натоўп людзей, што сабраліся вакол вялікай белай сцяны. Аўтар, як і кожны майстар, хоча данесці свае думкі — калі і не арыгінальныя, то блізкія кожнаму.


«Забытая палітра».

Выстаўка Аліка Замосціна «Пункт гледжання» стала працягам серыі персанальных вернісажаў у розных гарадах свету. Сам аўтар родам з Беларусі, жыве ў Ізраілі. Экспазіцыя працягнецца да 30 жніўня.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Натхнёны музыкай Агінскага

У выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча, што працуе пры Вілейскім краязнаўчым музеі, адкрылася фотавыстаўка «Эпоха Агінскага: аднаўленне памяці». Аўтар здымкаў — вядомы сталічны фотамастак Міхаіл Крыжаноўскі.

Цэнтральнае месца ў экспазіцыі займаюць работы, зробленыя на Вілейшчыне, у вёсцы Ганута, дзе Міхаіл Клеафас Агінскі жыў у палацы свайго дзядзькі і ствараў музыку. У палацы ў той час (пачатак XIX ст.) бывалі мастак Напалеон Орда і пісьменнік Ігнат Ходзька.

Акрамя таго, наведвальнікі ўбачылі фатаграфіі з іншых мясцін Беларусі, Літвы, якія звязаныя з імем вядомага грамадскага дзеяча, а таксама здымкі з тэатралізаваных імпрэз, прысвечаных Агінскаму.

Старшы навуковы супрацоўнік музея Вольга Коласава распавяла прысутным пра гісторыю будаўніцтва Гануцкага палаца і яго трагічны лёс, а літаратуразнаўца і публіцыст Васіль Ермаловіч — пра творчае крэда Міхаіла Крыжаноўскага: «Фота — для нас і для тых, хто будзе пасля нас».

На выстаўцы дэманстравалася і карціна «Гукі паланэза» вілейскага мастака Эдуарда Мацюшонка, які, пазнаёміўшыся са шматлікімі дакументамі, намаляваў палац у Гануце.

**Аксана ЯРАШОНАК**

# Мастацтва жыць

Выстаўка «Памяці мастака», на якой прадстаўлены жывапіс ураджэнца Браслаўшчыны Аляксандра Гайлевіча, адкрылася ў дзяржаўнай гісторыка-культурная ўстанове «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».

Яшчэ ў школьныя гады Аляксандр захапіўся маляваннем. Пасля школы працягнуў вучобу ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце на геалагічным факультэце. Незвычайная прафесія дазволіла яму пабываць у розных кутках Савецкага Саюза,назіраць разнастайныя пейзажы. І не проста ўбачыць, а захаваць іх прыгажосць на палотнах.

З часам жывапіс стаў галоўным заняткам жыцця. «У яго талент ад Бога» — гэтую фразу часта было чуваць на вернісажах мастака. Першая персанальная выстаўка адбылася ў Гомелі ў 1999 годзе і стала падзеяй у мастацкім жыцці горада. Прафесіяналізм тады яшчэ мала вядомага аўтара выклікаў сапраўдны фурор.

Аляксандр Гайлевіч уступіў у Беларускі Саюз мастакоў і лічыўся адным з самых запатрабаваных аўтараў. Адкрыццё кожнай з яго выставак ператваралася для аматараў пэндзля ў сапраўднае свята. Працягваючы пісаць у рэалістычнай манеры, ён пастаянна знаходзіўся ў пошуку, імкнуўся не спыняцца на дасягнутым, адважна эксперыментаваў, што не перашкаджала яму заставацца яркім, самабытным мастаком. Працаваў у тэхніцы «ала прыма» (ад італьянскага — «у адзін прысест»), што сведчыла пра майстэрства, віртуознасць і пацвярджала яго талент.

У аснове экспазіцыі — карціны, прадстаўленыя Ганнай Аляксандраўнай, якая была музай мастака шмат гадоў. Яны пазнаёміліся яшчэ ў школьныя гады, а аб'яднала іх любоў да жывапісу.

На жаль, Аляксандр Гайлевіч пакінуў гэты свет на піку сваёй творчасці.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# ЛіМ-каляндар

**1 жніўня** — 105 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Хацкевіча (1910 — 1979), акцёра, заслужанага артыста Беларусі.

**1 жніўня** — 95 гадоў з дня нараджэння Васіля Бандарчыка (1920 — 2009), этнографа, члена-карэспандэнта НАН Беларусі, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**6 жніўня** — 175 гадоў з дня нараджэння Альгерда Абуховіча (1840 — 1898), паэта, мемуарыста, аднаго з пачынальнікаў жанру байкі ў беларускай літаратуры.

**7 жніўня** — 105 гадоў з дня нараджэння празаіка Якуба Ермаловіча (1910 — 1987).

**7 жніўня** — 105 гадоў з дня нараджэння Генадзя Цітовіча (1910 — 1986), этнамузыколага, музыказнаўцы-фалькларыста, дзеяча харавога мастацтва, дырыжора, народнага артыста Беларусі і СССР (1968).

**7 жніўня** — 80 гадоў Міхаілу Шыманскаму, журналісту, заслужанаму работніку культуры Беларусі (1985).

**7 жніўня** — 65 гадоў мастаку Генадзю Сухамлінаву.

**10 жніўня** — 95 гадоў з пачатку існавання Беларускага трэцяга дзяржаўнага тэатра, арганізатарам якога быў першы народны артыст Беларусі Уладзіслаў Галубок.

**10 жніўня** — 65 гадоў крытыку, літаратуразнаўцу Анатолю Вераб'ю.

**12 жніўня** — 65 гадоў паэту Леаніду Галубовічу.

**16 жніўня** — 60 гадоў Генадзю Аўласенку, празаіку, паэту, драматургу.

**17 жніўня** — 60 гадоў паэту Алесю Жамойціну.

**19 жніўня** — 105 гадоў з дня нараджэння паэта Алеся Жаўрука (1910 — 1942).

**19 жніўня** — 105 гадоў з дня нараджэння Андрэя Раеўскага (1910 — 1993), рэжысёра, акцёра, заслужанага артыста Беларусі (1959).

**20 жніўня** — 85 гадоў Галіне Саламянка, мастаку дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**22 жніўня** — 50 гадоў Вользе Шарай, вучонаму-фалькларысту, этнолагу.

**22 жніўня** — 45 гадоў мастаку станковай графікі і жывапісу Аляксандру Улыбіну.

**24 жніўня** — 75 гадоў скульптару Анатолю Салятыцкаму.

**25 жніўня** — 85 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Салдатава (1930 — 1997), музыканта, дырыжора, педагога, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**25 жніўня** — 105 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Корбана (1910 — 1971), паэта-сатырыка, байкапісца, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**26 жніўня** — 80 гадоў з дня нараджэння Святланы Клімковіч (1935 — 2001), пісьменніцы, крытыка, перакладчыка, драматурга.

**26 жніўня** — 75 гадоў Анатолю Арцімовічу, скульптару, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998).

**27 жніўня** — 65 гадоў Галіне Каржанеўскай, паэтэсе, драматургу, крытыку.

**28 жніўня** — 110 гадоў з дня нараджэння жывапісца Фёдара Дарашэвіча (1905 — 1986).

**31 жніўня** — 100 гадоў з дня нараджэння Янкі Казекі (1915 — 2000), крытыка, літаратуразнаўца, заслужанага работніка культуры Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976).

# У кожным сэрцы адгукнецца…

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніна Кавалёва з Горак трэці год запар выступае ініцыятарам свята двара, якое ладзіцца каля дома 32 па вуліцы Вакзальнай. Сёлета ў ім браў удзел народны ансамбль «Жывіца» раённага цэнтра культуры, народнае літаратурнае аб'яднанне «Роднае слова», а таксама старшы навуковы супрацоўнік Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея Валянціна Белавусава.

За плённую творчую працу Ніне Кавалёвай была аб'яўлена падзяка ад аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Горацкага і Дрыбінскага райвыканкамаў. Бібліятэкар Цемналескай бібліятэкі — філіяла Дрыбінскага раёна Алена Шавардова адзначыла, што пры актыўнай падтрымцы народнага літаратурнага аб'яднання «Роднае слова» і Горацкай раённай бібліятэкі фонд музейнага пакоя Ніны Кавалёвай у Цемналескай бібліятэцы пастаянна папаўняецца новымі экспанатамі і творамі паэтэсы.

Нядаўна ўбачыў свет новы зборнік Н. Кавалёвай «Мы сталі абеліскамі», у які ўвайшлі вершы ваеннапатрыятычнай тэматыкі. Зборнік стане добрым краязнаўчым фотадаведнікам. Паводле ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Леаніда Самусенкі, «гэтае выданне асабліва каштоўнае для нашчадкаў, каб яны ведалі, што мір і свабода заваяваны мільёнамі жыццяў людзей, увекавечаных у помніках».

**Людміла ДЗЕРУЖКОВА,**
**кіраўнік народнага літаратурнага аб'яднання «Роднае слова»**

Мінскае гарадское аддзяленне СПБ і Саюз пісьменнікаў Беларусі выказваюць глыбокія спачуванні члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Вользе Міхайлаўне ПАЎЛЮЧЭНКА з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці МАЦІ.

## Віктар ГАРДЗЕЙ



«Чакаць нам кожны
вырак свой…»

### Мой сланечнік

Фарсун, апрануты па модзе,
Ці агародны донжуан,
Сланечнік мой, пры ўсім народзе
Дастаткамі не ўводзь у зман.

Твая знаёмая маркота:
Не бачыў свет, а час — на глум.
Пазваць хіба цябе з-за плота:
Ачуйся, брат, ад горкіх дум!

На ўзмежку, як на месцы
лобным,
Чакаць нам кожны вырак свой.
І мы, на жаль, з табой падобны:
Стаім з паніклай галавой.

У гаспадарстве слава трону —
Аж зіхаціць мой агарод.
Замах на княскую карону
Рыхтуюць рыцары прыгод.

Прабач, самотнік,
не прышыю
Твайму чалу ахоўны знак:
Хлапцы, як пеўню, скруцяць
шыю,—
Іх дзеўкі лушчаць семкі
ўсмак.

Сланечнік мой, ты зведаў
плаху
І, безгаловы, праз імгу
Пад ветрам пнешся вырваць
з праху
Сваю адзіную нагу.

### Там, за смугой…

Смуга вячэрняя з імшар
далёкіх
Кладзеца на прылескі
і лужкі,
Дый сажалкі задымлены
ад спёкі,
І каласы дзесь пражаць
пастушкі.

Спрыяльны час лічыць памылкі,
хіба —
Зрабіў іх шмат, калі быў
малады.
Там, за смугой, прыціхлыя
сялібы
І зрэдку — чалавечыя сляды.

Ці даляціць у сіняе сутонне
Царквы Георгія Святога звон?
Любоў і боль не грымнуць
у прадонне,
І тое, што не ставіцца на кон.

Нядзельны ўзрух за грэшнаю
суботай,
Але і тут гульня і мітульга,
Ды менш спакусы — одум
і гаркота,
І гэтая вячэрняя смуга.

### Валошкі

З падлеткаў вышаў і адчуў,
нібыта
Кахання ў сэрцы зелянее рунь,
І з той вясны люблю ў валошках
жыта,
А без валошак лепш расце
тытунь.

Сусед калісь цвяліў мяне,
малога:
«Ты ў жыце што рабіў?», і я,
на здзіў,
Крычаў: «Валошкі рваў,
а больш нічога
Я ў жыце з вашай Гэлькай
не рабіў!»

І вось, калі б у вёску ні прыехаў,
Убачу жыта і валошкі ў ім:
«Ты што там з Гэлькай?..» —
зборня пустасмехаў.
Дурны іх жарт, а мо і не зусім?

### Спякота на Мінскім узвышшы

Кульнуўся лісток да Пятра —
Ад смагі ў задышшы.
Гібеюць нізок і гара
На Мінскім узвышшы.

Чаго не паспела спаліць,
Дык возьме заморам.
Расплачацца кнігаўка: «Піць!»,
А чайка — за морам…

Чужому спрыяць — што
пашлей,
Як нораў паганы?
Ды Балтыка дождж не пашле,
Часцей — ураганы.

Кульнуўся лісток, як знарок,
Найціхаю сапай.
Змарнеў памідор, агурок, —
Ну, дожджык, пакрапай!
Хутчэй прагрымеў бы Ілля,
Дый мора спадобіць…
На Мінскім узвышшы гніл[л]я
Ілля не наробіць.

### Гармонік чую…

Гармонік чую з водшыбу на лузе
І заліхвацкі тупат босых ног.
Шкада, аднак: цяпер з дзяўчом
на крузе
Прайсціся б уяблінку ўжо
не змог.

Пад гучныя, з Саратава,
рыданні
Быў тайны ўшчып і згодлівы
маўчок.
Ні рогату, ні вяршыкаў
уранні —
Замоўк, як бубен, голы
«пятачок».

Хоць музу юную не крыўдзіў
«выдрай» —
Хіба калі прытупнеш удагон,
Гармонік чую, і нуда, як гідра,
З усіх бакоў мацней бярэ
ў палон.

### Група крыві

Чалавек мае групу крыві,
Самай першай — ад радасці
тупай.
Мне ж як хочаш, дык так і жыві
Са сваёй некантрольнаю
групай.

Па дарозе раслі валуны —
На абрыў з-пад хаціны
падпёртай.
Аксельбанты і галуны
Не свяцілі, хто з групай
чацвёртай.
Не прыкінецца ўрэшце святым
Просты кесар і простыя араты,
Хоць няма цвёрдай веры,
што ў тым
Рэзус-мінус якісь вінаваты.

Раптам шляхты ўзрасло,
як грыбоў:
Дзед, маўляў, і багаты,
і знатны…
Мінус, плюс — о, такая любоў!
Аддаваць гэты рэзус прыдатны.

### Далёкія зарніцы

Рыпіць пяро для добрых спраў —
Так шэвдар вяжуць спіцы.
Свой помню нарыс, што назваў
«Далёкія зарніцы».

Як і было гасцей на двор
Гукнула гераіня:
За вёскай аж сягалі зор
Зарніцы ў прорве сіняй.

Трашчалі ў змроку цвыркуны,
Прыкмета: дні сухія.
Навідавоку, без маны,
Ваш клопат, Еўдакія!

Жыццё ішло, а ўсё адно
Малюнкі не старэлі:
Чаруюць неба палатно
Начныя акварэлі.

То вогненны зігзаг, то штрых,
І — быццам рып абоза.
Зарніцы б'юць, а ў ззянні іх
Святлей сузор'е Воза.

Рыпіць пяро, хоць праз гады
Не шэвдар вяжуць спіцы.
Яны ж і сёння, як тады,—
Далёкія зарніцы.

## Мікіта НАЙДЗЁНАЎ



### П

Помніш промні
Па паветры…
Падышоў, пазнаў, паверыў.
Помніш першы пацалунак?
Позніх пісьмаў ратунак.

Помніш поезд,
Пільны позірк
Пачытаў, паверыў прозе.

Пераблыталі паперы.
Падышоў, пазнаў, паверыў.

***

Безвыходна і тое,
што ў выніку
Я цябе пастараюся выкінуць
З галавы, сваіх планаў,
з сэрдзіны.
Мяне некалі папярэдзілі.

Мы з табой ланцугом адным
звязаныя.
Як бы зведалі самае-самае.
І цяпер, калі звонку
жалезныя,
Адчувай: усё роўна залежныя.

Непазбежна,
і я гэта ведаю,
Як мы будзем ламаць камедыю.
Гаварыць,
нібы справа звычайная,
Толькі вочы такія адчайныя…

Не заменяцца шахматы шашкамі,
Я рыфмую, падлогаю шаркаю.
І ўсё гэта, здаецца, няўлоўнае
Адчуваеш ты, нібы галоўнае…

### Упасці

Кожны павінен упасці, павінен упасці,
Упасці ў каханне.
Самае простае шчасце, звычайнае
шчасце
Цябе не падмане.
Кожны павінен паверыць, павінен
паверыць,
Як гуку імёнаў:
Тое, што бачылі шэрым, што клікалі
шэрым,
Фарбуеш чырвоным.

За паваротамі далеч, маўклівая далеч,
Аж холад па целе.
Мы выбіралі дэталі, бо толькі дэталі
становяцца цэлым.
Хутка мяняецца стужка, мяняецца
стужка,
Як вока вінілу.
Ты падарыла мне птушку, а можа,
не птушку
і потым забыла…

дыхаў на поўныя грудзі, на поўныя грудзі,
а зараз хварэе.
Дыхаў — і марыў пра цуды,
а зараз марудзіць
І піша харэі.
Самае простае шчасце,
звычайнае шчасце
Ад ранку да ночы.
Кожны павінен упасці, павінен упасці,
Ну хоць бы аднойчы.

### Яна́

«Мінск — вялікая вёска» —
цытата спрадвечная.
Сустракаю цябе,
нібы штосьці недарэчнае.
Пазбягаю цябе,
ды насустрач іду.
Я не тое каб ды…
я не тое каб ду…
Пра цябе, ды на Ронда,
на Круглае плошчы
Сустракаю цябе,
размаўляю так проста.

Разышліся ж,
ды нешта трымае так,
нібы
Нас звязалі пярсцёнкамі Audi
німбы.
Як насмешка,
уцёкі мае ад цябе.
Прадавацца сяўбе,
ратавацца ў сябе.

### Крыўда

Ты талент мой не ставіш ані ў грош,
Хай напішу хоць самы лепшы верш.
Усё роўна скажаш мне, што мой быў горш,
А нечы — лепш.

***

Засумую па рызыцы
і небяспецы.
На вялікай зямлі —
па востраве.
Зоры соллю і перцам —
у небе спецыі.
Як жа мне не хапае вострага!

Ты харошая, добрая,
нават мілая,
Ды нібыта ўсё не тое.
Мне імя тваё залатое
Астылае, пастылае.

І ўсё ты даруеш,
як ветрыку,
Толькі ж я не жадаю гэтага.
Мне не хочацца так,
як прыйдзецца,
Ты павінна пакрыўдзіцца.

Толькі хоць ты мяне зараўнуеш,
Ты адно гэта ўсё зарыфмуеш.
Нашы жарсці з табой —
адно вяршыкі
Не апошнія
ды й не першыя.

***

Ты ведаеш наперад,
што было,
І вырашаеш для сябе,
што будзе
Працэй, чым верш
Канстанцы Буйло,
І прыгажэй
за зоркі ў Галівудзе.

Я ведаю цябе
ад хрызантэм,
Але яшчэ ад астр, гербер, рамонкаў.
Ты — быццам найхітрэйшая з сістэм,
Што блытае ўсё знутры і звонку.

Ты ўмееш гэтак проста напусціць
Не прастату ці дурнату, а дурасць.
Але твая высокая культура
Не дасць табе змяніць пасля шасці.

Мне нешта замінае усур'ёз
Цябе ўспрымаць,
але тут пэўны выбар:
Альбо ляці за птушкамі у вырай,
Альбо крычы сабе самому: «SOS!»

Я ведаю наперад,
што было,
І ведаю дакладна,
што як будзе.
Шкада, што аніхто
зусім не Будзі,
Апроч самога Будзі, ды вяло

Адно да аднаго
цябе й мяне
(хоць некалькі разоў мянялі вектар),
Ды зараз так адразу не заснеш,
Калі не дыхае над пахай нехта.

А час не запавольвае хаду,
Хоць сам сабе і здраджвае патрошку.
Але напаўпустыя нашы ложкі,
Бо я ўначы не да цябе іду.

Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ

# Здрада



Каваль Дорах Крапец апошні раз ударыў малатком па ручцы сярпа і, задаволены, укінуў яго ў цэбар з вадой. Той усерджана зашыпеў.

— Дахаты пара, — весела прагаварыў мужчына, адказваючы на шыпенне з кадушкі. — Сонца ўжо нізка, а я абяцаў сыну сягоння разам схадзіць на возера.

Ён скінуў цяжкі скураны фартух, спаласнуў цёплай вадой твар, рукі, пачаў нацягваць на магутнае распаранае цела кашулю. І раптам напружыўся, заціх, насцярожана прыслухаўся — ад вёскі данесліся жаночае галашэнне і дзіцячы енк.

— Што за чорт? — ці то вылаяўся, ці то запытаўся каваль. Бы ў адказ, ля кузні мільгатнулі цені, і амаль адразу ў дзвярах з'явіліся дзве постаці ратнікаў. Абодва былі нізкарослымі, барадатымі. Абодва мелі шырокія, плоскія твары, на якіх жорсткасцю палымнелі чорныя вугольчыкі вачэй. Абодва былі апранутыя ў брудныя чырвоныя кафтаны і абутыя ў зношаныя, разбітыя лапці. Ратнікі крычалі на незразумелай мове і рашуча паказвалі дзідамі ў бок яго вёскі.

— Вы што — маскавіты? — урэшце здагадаўся Дорах. Ён чуў, што і ў Браславе, і ў Друі, і ў Іказні ўжо гаспадараць людзі з Масковіі, аднак пра тое, што дабяруцца і да яго Дрысвят, не мог падумаць нават у страшным сне.

— Ідзі, — маладзейшы з незнаёмцаў паспрабаваў асцярожна кальнуць каваля вастрыём дзіды, але той рэзка адштурхнуў зброю і вышчарыўся:

— Не жартуй так, хлопец!

— Ідзі, ідзі, — замахаў рукамі другі маскавіт, і Дорах зразумеў: яго не заб'юць, а толькі праводзяць у вёску.

А ў вёсцы на ўскраек ясі зганялі і старых, і малых. Тых, хто супраціўляўся, няшчадна секлі бізунамі, хто хапаўся за сахор ці сякеру, — паласавалі шаблямі. Хутка ўсе вяскоўцы спалохана тапталіся ў акружэнні стральцоў каля невялікага пагорка, на якім нядаўна стаяў крыж, а цяпер высіўся свежаўкапаны невысокі слуп.

— Што яны задумалі, нехрысці? — паўшэптам запытаўся ў каваля сусед.

Аднак Дорах не пачуў: ён шукаў позіркам жонку ды сына. Урэшце ўбачыўшы іх жывымі, супакоіўся, нават штурхпнуў суседа локцем у бок:

— Не хвалюйся, Язэпка! Зараз іх ваявода раскажа, колькі і чаго мы павінны ім выплаціць, а потым, парабаваўшы нашыя двары, з'едуць.

І вось на пагорак ускараскаўся чалавечак у чорным адзенні, з ускудлачанай рэдкай барадзёнкай.

— Браты нашы і сёстры! — пранізлівым голасам пракрычаў ён у натоўп. — Адзінаверцы! Наш Божай ласкі ўладар і цар Аляксей Міхайлавіч, узяўшы пад сваё крыло законныя, вотчынныя землі, апякуецца не толькі пра жыватыя вашы, але і пра вашы душы. Таму слухайце ўказ яго і памятайце: ерасі, непаслушэнства і іншадумства мы не дапусцім, а тых, хто на гэта асмеліцца, чакае шыбеніца ці ганебны касцёр, — манах змоўк, выцер нос рукавом сутаны, дастаў з клунка, што вісеў на яго плячы, брудны папяровы скрутак, пракашляўся.

— Браты і сёстры! — праз імгненне яго віскліва голас зноў рэзаў паветра. «Знайшоў братоў», — Дорах глыбей нацягнуў шапку, каб хоць нейкі час не чуць гэтага віскату, але той амаль бесперашкодна прабіваўся праз лямец:

— «…а иные люди тех чародеев и волхвов и богомерзких баб в дом к себе призывают и к малым детям, и те волхвы над больными и над младенцы чинят всякое бесовское волхование и от правоверия православных крестьян отлучают; да в городах же и уездах от прелестников и людей малоумных делается бесовское сонмище, сходятся многие люди мужского и женского полу по зорям и в ночи чародействуют, на реках и в озерах купаются, чают себе от того здравия, и чинят бесчинное скакание и плясание, и поют бесовские песни…»

«Нашы святары не забараняюць ні Купалле, ні Каляды, ні Васілле, — пачаў у думках спрачацца з маскоўскім манахам каваль. — Весяляцца разам з народам і часам ад кубка віна не адмаўляюцца».

— «…и уклоняются православные християне к бесовским прелестям и ко пьянству, а отцов духовных, и по приходам попов, и учительных людей наказанья не слушают…»

Дорах перастаў слухаць плюгавенькага манаха. Яго ўвагу прыцягнула іншае: трое стральцоў падвялі да ўкапанага ў зямлю слупа звязаную па руках жанчыну і, як падалося кавалю, маладую. Хто такая, адразу не пазнаў, бо твар яе быў ссінячаны, ды і густыя валасы пакідалі бачнымі толькі падбародак і кончык носа. Аднак, наблізіўшыся да слупа, незнаёмка горда матлянула галавой, адкінула з твару валасы, сціпла ўсміхнулася. І каваль адразу пазнаў яе, а пазнаўшы, жахнуўся, ірвануўся наперад: перад натоўпам стаяла іх лекарка Надзея.

— Адпусціце лекарку, — прасіпеў ён праз зубы стральцам, якія адразу навалiліся на яго. — Чым яна перад вамі правінілася?

Манах, які ўжо закончыў чытаць царскі ўказ, спакойна выслухаў каваля і, быццам пагаджаючыся з ім, для супакаення натоўпу падняў угору сваю касцістую руку.

— У чым яе віна? — ён з непаразуменнем агледзеў звязаную жанчыну, стральцоў, якія трымалі Дораха, кавалак паперы, з якога толькі што чытаў указ. Натоўп прыцiх. — Яе віна толькі ў тым, што яна — вядзьмарка! — натоўп ахнуў, адхінуўся ад манаха. А той працягваў:

— І вы ведаеце пра гэта! Вы ўсе зведалі на сабе яе вядзьмарскія чары. Успомніце, браты і сёстры, свае хваробы за апошнія месяцы! Успомнілі?

Пытанне ўдарыла бізуном па натоўпе сялян, многія з якіх звярталіся да Надзеі па параду ці дапамогу. Аднак манах паставіў пытанне інача́й, і яно халадком прайшлося па душах многіх. «А можа, і сапраўды ў мяне здохла свіння, што яе сурочыла гэта вядзьмарка? А мо гэта яна вінаватая ў тым, што ў нас даўно няма дажджу і трава сохне на корані?».

Натоўп зашумеў па-новаму. Многія з тых, каму Надзея дапамагла добрым словам і лекамі, глядзелі варожа, іх позіркі выпраменьвалі нянавісць.

— Вось перад вамі жанчына, некалі самая прыгожая ў ваколіцах Дрысвят, — манах паказаў на сялянку, што закрывала твар хусткай. — Вядзьмарка пазбавіла яе прыгажосці і ператварыла ў старую толькі праз зайздрасць. А вось малалетні хлопчык, які ледзь не загінуў ад яе праклёну. Аднак не толькі людзі пакутуюць ад яе зладзействаў. Гэта яна наклікае засухі, падзеж быдла і бяскорміцу. Усе беды — ад яе, таму што яна вядзьмарка! І таму, — голас чарняца нечакана акрэп, — згодна з царскім указам мы загадваем пакараць яе спаленнем на кастры! — Натоўп зноў ахнуў, гэтым разам разгублена, спалохана.

Некалькі стральцоў кінулі да слупа загадзя нарыхтаванае сухое голле і пачалі прывязваць да яго Надзею.

— Людзі! Чаго стаіце? Чаго чакаеце? Ці ж не я ратавала вашых дзяцей і вашыя гаспадаркі? — узмалілася жанчына, але натоўп маўчаў, і толькі каваль злосна рыкаў, усё спрабаваў пазбавіцца цэпкіх абдымкаў стральцоў, адзін з якіх урэшце не вытрымаў і ўдарыў Дораха па галаве каменем. Той адразу абмяк і паваліўся ў дарожны пыл.

«Род Усявышні! Клічу Святло тваё ажыўляльнае! Моц бацькі Сварога і матулечкі Лады, і ўсіх багоў светлых, прыйдзіце да мяне і благаславіце на шлях мой пакутлівы, апошні! Данавадзіца, жывая крыніца, ачысці маё цела, асвятлі мае думкі, як ранішні прамень лугі і лясы асвятляе. Жыццё ў табе нараджаецца, абнаві і ўмацуй яго ў душы маёй. Хай сіла будзе са мной, як і ў родзе маім, хай дзеці мае стануць мацнейшымі і шматкроць разумнейшымі за нас. Хай будзе так!» — шапталі абяскроўленыя вусны Надзеі.

Манах нейкі час прыслухоўваўся да малітвы жанчыны, потым, нешта прыдумаўшы, са смехам выгукнуў:

— Калі яна такая праведніца, як кажа, то няхай папросіць сваіх багоў, каб тыя здзейснілі цуд і патушылі касцёр!

У наваколлі Дрысвят пацямнела, на небе з'явілася чорная хмара, загрымеў гром, траскучая маланка раскалола паветра над людскімі галовамі. Усе пападалі на зямлю, паднялі да неба рукі, загаласілі малітвы. А Надзея падняла да неба сухія вочы і папрасіла:

— Усясільны Пярун! Мне ўжо няма месца на гэтым свеце — ім патрэбна ахвяра, каб перакласці свае грахі на чужыя плечы. Таму не лютуй дарэмна і злітуйся, вазьмі мяне да сябе.

З апошнімі яе словамі асляпляльная маланка ўдарыла проста ў слуп, раскідала вуголле, асляпіла прысутных, а ваколіцы вёскі страсянуў гром такой сілы, што з дрэў пасыпалася лісце, а ў некаторых хатах абваліліся саламяныя дахі.

Вядзьмарка ж бясследна знікла.

Доўга яшчэ сяляне і стральцы ляжалі на зямлі, баяліся прыўзняць галовы. І толькі калі ўсё сціхла, нясмела падняліся на кукішкі, по-тым — на ногі і павольна, бы пабітыя сабакі, маўкліва разышліся па дварах, дзе спадзяваліся схавацца ад сораму і ганьбы.

Адзін каваль стаяў каля абвугленага слупа.

— Прабач нас, Надзея, лекарка целаў і душ чалавечых. Я хацеў адвесці смерць, ды не адолеў апошнія крокі і, як і ты, не дачакаўся дапамогі, — Дорах Крапец павярнуўся тварам да вёскі. Вочы яго гарэлі.

— Вы, што абвінавацілі невінаватага, які заўсёды быў літасцівы да вас, здзейснілі двайны грэх. Вы захацелі схавацца за чужой спінай, каб застацца чыстымі і бязгрэшнымі, аднак менавіта за гэта Бог пакарае вас, бо грэшны той, хто здзейсніў грэх, але яшчэ больш грэшны той, хто гэты грэх не папярэдзіў або паздрадніцку, па-зладзейску ўсклаў яго на другога!..

На Дрысвяты апускалася ноч.

*Дэбют*

Дар'я СЕНЬКОВА

Нарадзілася ў Мінску. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ (спецыяльнасць «Літаратурная работа»). Сёлета стала пераможцай літаратурнага конкурсу «БрамаМар» у намінацыі «Проза». Супрацоўнічае са студэнцкай газетай «ЖурФАКТЫ», спрабуе сябе ў літаратурнай крытыцы. Вершы і проза друкаваліся ў часопісе «Качели».

# Гора на нашы галовы



— Пакладзі на месца.

Хлопчык хутка-хутка азіраецца на маму, але скрыначку з салдацікамі назад на паліцу не кладзе. Практыка даўным-даўно паказала: пакуль мама не павярнулася, у руках можна круціць усё што заўгодна.

— Пакладзі, я сказала.

А вось цяпер яна ўсё-такі павярнулася. Пад скептычным, які не абяцае нічога добрага, позіркам доблесныя пластыкавыя варвары-мараходы драбнеюць. З бліскучай скрынкай, абцягнутай новенькім, гладзенькім, скрыпучым цэлафанам, давядзецца развітацца.

— І не замінай мяне, — для пэўнасці дадае мама, тут жа адводзячы стомлены погляд убок. Чарга ледзь-ледзь рухаецца да касы. — Ох, ды колькі ж можна алоўкі выбіраць…

Быў вечар трыццаць першага жніўня: час, калі асабліва адказныя навучэнцы школ, каледжаў ды ўніверсітэтаў успаміналі, што пажадана набыць хаця б ручку, а можа, нават дзве. Хлопчык засоўвае рукі ў кішэні сініх джынсаў, пераступае з нагі на нагу і ад няма чаго рабіць лёгенька пінае стойку. Мама, разгубленая ад яго поўнай абыякавасці, зноў падае голас, уладна тыцнуўшы пальцам у чаргу новенькіх буквароў:

— Давай, прачытай мне, што тут напісана.

Хлопчык апускае позірк і нават як быццам памяншаецца.

— Я… я не буду.

— Прачытай, кажу, што тут напісана.

У адказ — цішыня і ўсё той жа погляд у падлогу, да якога паступова дадаецца чырвань дзіцячых шчок.

— Ну? — перапытвае маці.

Падлога ў гандлёвым цэнтры чыстая, амаль люстраная, і таму яшчэ больш непрыемна. Адлюстраванні вялікіх і страшных дарослых паўстаюць навокал, як чорныя баабабы. Акуратна пераступаючы па гэтай жудаснай падлозе, хлопчык падыходзіць да маці і ціхенька (ва ўсялякім выпадку, яму так здаецца) кажа:

— Мам, я не хачу, каб усе чулі.

— А перад настаўніцай сваёй як адказваць будзеш? — ранейшым тонам пытаецца маці. — Ты яе выйсці папросіш? Там жа яшчэ і іншыя дзеці будуць. Ну? Чаго глядзіш?

Хлопчык, адчуваючы спінай маўклівае асуджэнне ўсёй чаргі, пазірае на маму, усім сваім выглядам просячы яе гаварыць трошкі цішэй. Пластыкавыя варвары-мараходы ў яго думках захопліваюць Краіну буквароў і спальваюць велізарныя букварныя замкі.

— Дык вось, ты не «не хочаш», ты не можаш, — падсумоўвае маці, павярнуўшыся ў бок усё яшчэ далёкага касіра. — Гора на маю галаву, у першы клас збіраецца — чытаць не ўмее! Надпіс на дзіцячай кніжачцы прачытаць не можа. Што мне пасля твая настаўніца скажа? Як я ёй наогул у вочы глядзець буду?! Як растлумачу, што майму сыну шэсць гадоў, а ён чытаць не ўмее?!

Пластыкавыя варвары-мараходы спачувальна глядзяць на хлапчука з суседняй паліцы.

— Ох, стой ужо моўчкі. Так, пачакай… — маці, узяўшы кошык у другую руку, дастае з кішэні паліто мабільнік. — Алё… Так, усё яшчэ стаю… Тут да першага класа чорт ведае колькі купіць трэба, я зараз звар'яцею проста… Так, узяла… Не, ты ўяўляеш, ён надпіс на буквары прачытаць не можа… Не, у дзіцячы садок не аддавала, будуць яны мне яшчэ дзіця псаваць сваім гэтым соцыумам… «Чаму» што?.. Чаму сама чытаць не навучыла? Лена, ты мяне здзіўляеш! Калі я яго вучыць чытаць павінна была? Мне на працу хадзіць не трэба, ці што? Вось, вось як яно… Так, пачакай, я ў чарзе, не магу размаўляць… Хаця… — яна пераводзіць погляд на сыночка. — Саша, стой тут. Кошык трымай. І толькі сыдзі куды-небудзь. Я зараз вярнуся. Так, Лен, я цябе слухаю…

Пластыкавыя варвары-мараходы згаджаюцца папільнаваць кошык за кампанію. Гэта ўсё, што яны могуць зрабіць.

# Спосаб бачыць свет

**Верлібр — паэтычная форма, асаблівасці якой абмяркоўваюцца з найбольшым імпэтам. Каб высветліць прычыны адвечнай дыскусіі, дастаткова крыху паблукаць па сеціве. Паводле адной жорсткай фармулёўкі, толькі 5% верлібраў маюць мастацкую вартасць, астатнія 95% — лухта, якая не заслугоўвае ўвагі чытача. Такім чынам, шмат апублікаваных кепскіх верлібраў выклікаюць недавер да самой паэтычнай формы: пісаць вольныя вершы нібыта проста, але захапляюць яны далёка не ўсіх.**

## МАШТАБ ТРАГЕДЫІ

Як сведчыць выбранае з беларускай класікі, добры верлібр нічым не горшы за добры рыфмаваны верш, а кепскі верлібр засмуціць чытача не больш за нецікавы твор з рыфмай і вытрыманым рытмам. Апошнім часам у беларускай паэзіі з'явілася нямала маладых верлібрыстаў, у творчым набытку якіх вартыя тэксты пераважаюць над «астатнім». Зрэшты, прыслоўе няпэўнай колькасці можна ўдакладніць праз зварот да статыстыкі.

Каб вызначыць, наколькі верлібр прываблівае маладых паэтаў, дастаткова звярнуцца да часопіса «Маладосць» і пагартаць сем нумароў за бягучы год. За гэты час у часопісе былі апублікаваныя 34 вершаваныя падборкі, 8 з якіх складаліся выключна з верлібраў. Творчасць 5 аўтараў была прадстаўлена як рыфмаванымі, так і нерыфмаванымі вершамі. У выніку нескладаных падлікаў можна сцвярджаць, што кожны чацвёрты малады беларускі паэт піша толькі верлібры і — з яшчэ большай упэўненасцю — што кожны трэці звяртаецца да гэтай формы перыядычна.

Прыкладна 30% твораў, апублікаваных у «М.» пад рубрыкай «Паэзія», — гэта верлібры. Значыць, астатнія 70% — традыцыйная для нашай літаратуры рыфмаваная паэзія? На жаль, не, бо ўважлівы чытач часопіса мог даўно заўважыць легкаважнае стаўленне да рыфмы з боку маладых аўтараў. Сугуччы ў канцы радкоў часта выяўляюцца толькі падчас другога ці трэцяга чытання твора. Для прыкладу — урывак з верша Мікіты Найдзёнава «Гэты дзень»:

«Самай доўгаю ноччу / Прасядзелі ў размовах. / Не на гэта зімовыя / Варта ночы скарочваць. / Гэты дзень быў удачны, / Хоць пачаўся так позна, / А надвор'е марознае, / Як навек нешта страчанае». Цяжка сказаць, як класіфікаваць гэты твор: верлібр ці не? Тое ж пытанне паўстае падчас чытання гожага верша «Пахне слівамі...» Марыі Бадзей, які можна прысвяціць ці не кожнаму беларускаму паэту. З 18 радкоў у адвольнай паслядоўнасці рыфмуецца толькі 11. Што гэта за паэтычная форма — пытанне для тэарэтыкаў...

Верагодна, вялікая колькасць недакладных рыфмаў у творах маладых паэтаў — у значнай ступені правіна верлібра. Калі вершы можна пісаць без памеру і рыфмы, з адвольнай даўжынёй радкоў, то чаму б пры зручным выпадку не ўпрыгожыць тэкст «паяском» сугуччаў? Што атрымаецца ў выніку — дакладна не клопат аўтара.

## ПЫТАННЕ ФОРМЫ

Яшчэ адна істотная заўвага: ані аўтары, ані рэдактары не спяшаюцца пазначаць верлібр як форму метрычнай кампазіцыі побач з адпаведнымі творамі. Часопісныя падборкі верлібраў змяшчаюцца ў рубрыцы «Паэзія», у анатацыі да зборнікаў проста пазначаецца «вершы».

Цікава, выказванне Уладзя Лянкевіча «ад кожнага — па магчымасці / кожнаму — па поліэтыленавым пакеце» — гэта таксама верш? Калі б не падзел на два радкі, гэта быў бы афарызм у адным сказе. Тое ж тычыцца і многіх тэкстаў са зборніка Кірыла Анохіна «АсцярожнА, дрэвы зАчыняюцца»: «люблю / калі ты / любіш / калі я»; «хто калі не я / каго / калі не цябе». Гэтыя загадкавыя фразы можна ўявіць у выглядзе графіці на сцяне рамантычнага катэджа, у выглядзе лаканічнага запісу ў канспекце каханай. Калі ж лічыць іх вершамі, кожны аўтар трапнай нататкі ці смс-кі можа смела адчуваць сябе верлібрыстам, што зусім няблага... Дарэчы, Аляксандр Пушкін таксама пісаў верлібры, бо сучасныя даследчыкі лічаць верлібрам і вольны верш, і акцэнтны верш, і белы верш.

Тэксты ж К. Анохіна маюць алібі ў выглядзе анатацыі да зборніка: «Аўтар гэтай кнігі нешматслоўны — ён піша не толькі вершы, але і маўчанне, у якім яны гучаць. (...) "Асцярожна, дрэвы зачыняюцца" — гэта хутчэй заклік да ўвaходу, чым перасцярога, бо нават сезонныя змены надвор'я тут робяцца цудам, які варта перажыць разам з аўтарам». Калі ўспрымаць кнігу як зборнік не толькі вершаў, але і маўчання, цудаў, заклікаў і перасцярог, то гартаецца яна абсалютна спакойна. Тым больш яе не трэба набываць, а можна чытаць у электронным варыянце на сайце bybooks.eu. Па гэтым самым адрасе можна знайсці і іншыя зборнікі верлібраў: «Арэхападзенне» Віялеты Пачкоўскай, «Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза» Андрэя Пакроўскага, «Я пчала» Асі Волкавай... У серыі «Пункт адліку» пабачыла свет і кніга Уладзя Лянкевіча «70% вады».

## ПРА ЗБОРНІКІ

Творы гэтых аўтараў маюць нямала падобнага, — напрыклад, часты зварот да тэмы кахання абумоўлівае наяўнасць суразмоўцы альбо аб'екта роздумаў, які хаваецца за займеннікамі другой асобы. Каб выявіць пачуцці, не патрэбны звыклыя эпітэты: можна заўважыць яго падабенства са сваім дзедам і паспадзявацца на нясумную старасць альбо на паўтары старонкі распавесці пра самоту без яе… Не абысціся і без галоўнага: «мой мерны ложак / не далічваецца / тваёй паловы / інгрэдыентаў / для прыгатавання / добрага сну». Такіх адкрытых пяшчотных тэкстаў нямала ў К. Анохіна.

> *Маладыя аўтары не спяшаюцца пісаць ад імя змагароў, геніяў ці вялікіх філосафаў. Яны могуць быць наіўнымі ці ўзнёслымі, расчараванымі ці захопленымі жыццём — але не маюць патрэбы ў літаратурных масках: цікава проста выявіць сябе.*



Малюнак Алесі Ісы.

Маладыя аўтары любяць успамінаць дзяцінства, а ўрбаністычныя матывы пераважаюць над апісаннямі прыгожых краявідаў. Яны часта распавядаюць пра жаданні і мары, уяўляюць фантастычныя пераўтварэнні. Адзін з самых кранальных вершаў такога кшталту знаходзім ва У. Лянкевіча:

*я мог бы быць тваім цмокам*
*вазіў бы цябе на спіне па горадзе*
*выкідаў бы смецце бегаў у краму*
*аніякіх праблемаў з паркоўкай*
*ды ў любую хвіліну —*
*на лецішча (...)*
*ты ляпіла б для мяне з батона*
*юнакоў і дзяўчат*
*а ў зімовыя вечары*
*ты б грэла рукі ля маёй пашчы*
*а ноздры прыдаліся б як фен*
*але я не стану тваім цмокам*
*бо яшчэ з маленства памятаю*
*чым такія гісторыі*
*сканчаюцца*

На прыкладзе гэтага твора выяўляецца яшчэ адна характэрная рыса: маладыя аўтары не спяшаюцца пісаць ад імя змагароў, геніяў ці вялікіх філосафаў. Яны могуць быць наіўнымі ці ўзнёслымі, расчараванымі ці захопленымі жыццём — але не маюць патрэбы ў літаратурных масках: цікава проста выявіць сябе.

Паводле культуролага Вячаслава Іванова, верлібр — гэта «спосаб бачыць свет». Вядома, мастацкая творчасць заўсёды ёсць выяўленне ўнікальнага светапогляду, але мова традыцыйнай рыфмаванай беларускай паэзіі больш заштампаваная, чым мова свабоднага верша. У нашай літаратуры можна адшукаць некалькі сотняў твораў, прысвечаных Радзіме, прыродзе, каханню, вельмі падобныя між сабой і якія, здаецца, маглі б належаць аднаму аўтару. А вось знайсці ў розных творцаў два аднолькавыя верлібры — справа амаль немагчымая. Бо верлібр — гэта не толькі адметнае светаўспрыманне, але і індывідуальнае мысленне, выключна аўтарская інтанацыя. Творчасць кожнага верлібрыста мае свае характэрныя рысы, але пераблытаць тэксты розных аўтараў амаль немагчыма.

Вершы Віялеты Пачкоўскай мяккія і лірычныя, Кірыла Анохін імкнецца быць дасціпным і лаканічным. Ася Волкава любіць правакатыўнасць і нечаканыя спалучэнні вобразаў, але яе лепшыя творы — пра магічныя здольнасці архаічнай жанчыны і адвечную для чалавека магчымасць пераўвасаблення. Уладзь Лянкевіч невыпадкова параўноўвае сябе з Босхам і Пітэрам Брэйгелем: яго творы — вандроўка ў змрочны свет, багаты на вычварнае і нечаканае. Аўтар прапануе насыпаць горы, на якіх «будзе расці бульба і нацыянальная годнасць», запрашае ў краіну Оз і сучасны падводны горад Свіцязь, тлумачыць, чаму кінутыя сабакі ператвараюцца ў ровары. Уладзь Лянкевіч — самы «філалагічны» між іншых аўтараў — адсюль засмучэнне, што «водар слоў сцірае тое, чым яны ёсць», сумная рыфма «песня-плесня» і сціплая мара:

*я хачу быць старым*
*і з лірай*
*каб то ціха зусім*
*то гудзела*

## ПРАБЛЕМА

Самымі чытэльнымі верлібрамі як у аўтарскіх зборніках, так і на старонках «М.» падаюцца тэксты, напісаныя на канкрэтную тэму, якія распавядаюць пра пэўны стан, аб'ект альбо сітуацыю. У В. Пачкоўскай гэта верш пра імгненне «засынання» і шчымлівая просьба зайграць на віёле, у А. Волкавай — «Пакой» і «Верш пра хлебаробаў». Але здараецца, што ў творах блытаюцца сюжэты, груваcяцца дзіўныя асацыяцыі, чаргуюцца ўрыўкі нібыта выпадковых думак. Калі ў чытача не атрымалася «ўключыцца» ў паэтычную сістэму аўтара, такія тэксты пакідаюць глыбокае непаразуменне. Для творцы верш можа быць істотны як фіксацыя значных уражанняў ці развагаў, але староннему чалавеку ён не скажа нічога...

Павучальная ў гэтым сэнсе падборка «Будзень» Андрэя З-ага, надрукаваная ў «М.» разам з каментарыямі аўтара. «Тое, што вершы не зусім ясныя, ці зусім няясныя, — справа звычайная наогул, не кажучы пра мой дэбют у гэтым жанры...» — так распачынаюцца тлумачэнні А. З-ага, без якіх сэнс большасці апублікаваных тэкстаў застаўся б вельмі цьмяным.

Аўтарскія расшыфроўкі былі б патрэбныя да многіх верлібраў — але ці варта публікаваць незразумелыя тэксты, якія не маюць выключнай мастацкай каштоўнасці? Вядома, не бывае паэтаў, якія пішуць толькі выбітныя вершы, таму толькі самакрытычнасць аўтара і непахісная цвёрдасць рэдактара могуць забяспечыць добрыя ўражанні чытача. Зразумела і тое, што ўспрыманне мастацкага твора заўсёды суб'ектыўнае. Верлібры вядомага сербскага паэта Ранка Радавіча, перакладзеныя Марыяй Кобец і апублікаваныя ў пятым нумары, таксама могуць выклікаць скептычнае стаўленне чытачоў.

Пашыраная праблема верлібрыстаў — гэта недарэчныя метафары. «У паветраным ёгурце плаваюць крумкачы, / ды тонуць на дрэвах разынкамі з гнілых вінаградаў», «мы — заплечнікі, / рамяшкі на спацелых спінах сваіх анёлаў», «Паэзія — / Гэта толькі спроба руху / У бок вузенькай дзіркі, / Якую прасвідравала недасведамасць / Маленькай шэрай мышкі — / Паэта»... Цытаваць не вельмі ўдалыя радкі можна доўга, але раптам і такія мастацкія знаходкі некаму будуць да густу?

Дарэчы, усе верлібры маюць адзін вялікі сакрэт: чым больш іх перачытваеш — тым лепш разумееш. Да таго ж зборнік верлібраў можна разгортваць зноў і зноў і штораз адшукваць новы сэнс ці новы дасціпны радок. Для аўтараў, якія любяць гэтую паэтычную форму, напісана нямала парад, між якімі можна сустрэць і перасцярогу не пачынаць літаратурную творчасць выключна верлібрамі. Гэта будзе зразумелым, калі ўлічыць, што верлібр — улюбёная форма канцэптуалістаў, а канцэптуалізм — культурны феномен, які існуе пасля традыцыйнага мастацтва і філасофіі. Многія верлібры — гэта ўжо не паэзія, а тэксты, вартыя зусім іншага ўспрымання. І навошта вяртацца да ўмоўнасцей жанру і метра, калі ўжо атрымалася зазірнуць туды, дзе літаратура скончылася?..

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Прырода + дарога + каханне

Вось кароткая формула паэтычнага зборніка Наталлі Русецкай «Каштаны ў кішэнях», зборніка лірычнага да апошняй кропкі — ці шматкроп'я.

Галоўная гераіня гэтай дзеі, а ў зборніку ёсць паўны «сюжэт», які разгортваецца ва ўнутраным свеце гераіні, праз маналогі і звароты да любага, — жанчына, якая знаходзіцца ў вечным вандраванні. Але прычынай таму не прага прыгод, а імкненне запоўніць пустату — гераіня ў нязменным пошуку. Самота падштурхоўвае зноў сесці ў цягнік і прыслухоўвацца да грукату колаў нібы да ўласнага сэрца.

Наўмысна ці не, гэты грукат мы чуем і нават бачым дзякуючы асаблівай пабудове радка: Наталля Русецкая разбівае сказ такім чынам, што на радок прыходзіцца адно-два словы (за выключэннем вершаў, якія маюць прынцыпова іншую стылістыку і пабудову). Так, націск падае на кожнае слова ў вершы, робячы значнай усякую «дробязь». Гэта вельмі пасуе вобразу гераіні — уражлівай, узвышанай, нецярплівай, але разам з тым схільнай да тугі.

Можна заўважыць, што ў такім апісанні гераіня падобная да дзіцяці, вечна ўзрушанага і неспакойнага. Так яно і ёсць. Нават больш: адданасць мужчыне, пошук кахання для яе не рамантычная прыгода, але пошук, — кажучы метафарычна і ў сэнсе зусім не рэлігійным — Айца. Гераіня, пакінутая любым, бачыцца дзіцём, якое пакінулі бацькі.

Нават шчаслівыя сустрэчы ў вершах паўстаюць толькі прыпынкамі, за якімі зноў працягнецца бясконцая дарога. Тым большае ўражанне безвыходнасці стварае падабенства вершаў, паўтарэнне адных і тых жа думак, пачуццяў, хоць і з рознымі яго адценнямі. Здаецца, быццам гэта і не асобныя вершы, а паэма, разбітая на шмат маленькіх раздзелаў. Але нечаканыя яркія вобразы, усплёскі пачуцця не даюць канчаткова рассеяць увагу.

Дарэчы, пра тое, што гераіня — дзіця, сведчаць творы-ўспаміны пра дзяцінства. Маленства паўстае светлым і чыстым, там усё было сапраўдным. Дзяцінства ва непарыўна знітаванае ў Н. Русецкай са святам, з зімою — пэўна, таму, што яна сама па сабе ўяўляецца сімвалам чысціні. Свет дарослых, сярод якіх апынулася гераіня, бачыцца суцэльнай падробкай. І тут аўтарка робіць заўвагу, якая адрознівае яе вершы ад іншых «песень-жальбаў»: яна разумее, што не свет сапсаваўся з часам, але сама яна стала іншай.

Каханне ў зборніку «Каштаны ў кішэнях» адлюстроўваецца ў свеце прыроды. Развіццё пачуццяў і стаўлення да іх самой гераіні адбываецца паралельна змене пораў года: ад восені з яе апатыяй і паміраннем праз халодную, але такую чыстую зіму да прадчування вясны — але хутчэй не як шчасця, а як чаканай палёгкі. Здаецца, шчасця гераіня і не шукае. Ёй даволі ўсведамлення, што гэтае паляванне (аднойчы паэтка выкарыстоўвае такі вобраз) будзе цягнуцца вечна.

Тым больш нечаканыя ў зборніку вершы пра дом, сям'ю; раптам з'яўляюцца вобразы дзяцей. Зусім інакш — нават больш лагічна ў дачыненні да агульнага настрою зборніка — выглядае іншы матыў: зараджэнне новага жыцця, якое менавіта «прарастае», то бок, таксама звязваецца з прыродай. Так, жанчына не проста частка яе, але канкрэтнае ўвасабленне прыроды, жыцця.




Ёсць яшчэ адна асаблівасць, на якую варта звярнуць увагу: хоць вершы Н. Русецкай нараджаюцца выключна з глыбінных перажыванняў, з самага асабістага, таемнага, адчуваецца сталая сувязь гераіні са Светам. Яна не замыкаецца ў сабе, але разглядае ўсякі зрух душы ва ўзаемасувязі з «сусветнай душой». Прывесці ў доказ пэўную цытату немагчыма, бо выяўляецца гэта не наўпрост, а паступова, з кожным вершам. І ў каханні заўжды ёсць нешта большае за каханне: паэтка выдатна гэта разумее, адчувае — і намацвае слова за словам, бо толькі так, звужаючы кола, можна азначыць гэтую з'яву, якой пэўнага наймення няма.

> *Націск падае на кожнае слова ў вершы, робячы значнай усякую «дробязь». Гэта вельмі пасуе вобразу гераіні — уражлівай, узвышанай, нецярплівай, але разам з тым — схільнай да тугі.*

З першага погляду вершы Н. Русецкай нагадваюць верлібры, аднак насамрэч гэта класічны верш, і верлібр тут хутчэй выключэнне. Верш ускладняецца алітэрацыяй, якая стварае дадатковыя сэнсы, часам даходзіць да гульні слоў. Гэта вершы, у якіх многае сказана яшчэ і паміж радкоў.

Між тым аднастайнасць ператвараецца ў пэўны момант у недахоп: вы не можаце прыгадаць паасобныя творы — толькі настрой, гэткая паэтычная плынь свядомасці. Вылучаюцца з гэтага шэрагу вершы, адрозныя па пабудове, з даўгім і складаным радком (прыкладам, «Цягнік Берасце — Менск»).

На завяршэнне можна сказаць толькі адно: пры ўсёй сваёй мінорнасці, мройлівасці, плыткасці паэзія Наталлі Русецкай споўненая прагі жыць і самога жыцця. І, быць можа, у гэтым бясконцым пошуку шчасця і заключаецца гармонія маленькага сусвету гераіні?..

**Наста ГРЫШЧУК**

# Легалізацыя ў кулуарах

**Паэт, які заракаецца пісаць вершы, — з'ява незвычайная. У беларускай літаратуры былі такія, каго змушалі да маўчання пад пагрозай фізічнага вынішчэння. А вось каб добраахвотна… Хіба што — Леанід Галубовіч?**



Адзін з «самых-самых» паэтаў сучаснай Беларусі, ён знаходзіўся ў зацятым паэтычным маўчанні 12 гадоў. Але — толькі паэтычным. Праз два гады пасля абвешчанага зароку ён стаў супрацоўнікам газеты, якую вы цяпер трымаеце ў руках, і прапрацаваў тут да 2010-га, «легалізаваўшы» процьму кніг.

Першай з'явілася якраз «ЛеГалізацыя», дэбют якой адбыўся 28 лістапада 2003 года. «Назіраючы, як няспынна расце на маім пісьмовым стале гара з набытых і падараваных мне кніжак, падумалася пра іх розгалас, пра тое, як данесці патэнцыяльнаму чытачу іх, пакуль шырока незапатрабаваную, змястоўную сутнасць», — ужо тут можна заўважыць не толькі занепакоенасць крытыка, але і паэта. «Спыніўся на міні-рэцэнзіях, бо не хапае часу і рук, каб пра кожную (нават сапраўды вартую кніжку) з цэлым светам гутарку весці». Сапраўды, напачатку ён абмяжоўваўся міні-рэцэнзіямі, але з часам жанравыя рамкі сталі зацеснымі, і ўрэшце з'явіліся «Кулуары», дзе Л. Галубовіч усё больш ператвараўся ў суворага крытыка.

Дарэчы, за тую суворасць яго не раз упікалі. Даходзіла да камічнага. Напрыклад, адзін з адданых чытачоў «ЛіМа» назваў творцу ўваскрэслым Бэндэ (зазначу, што і сёння такое параўнанне актуальнае — ведама па сабе). На фоне іншых крытыкаў Л. Галубовіч выглядаў надзвычай смелым у ацэнках. Яму дасылалі лісты са скаргамі, да яго прыходзілі пакрыўджаныя паэты, а адзін з іх нават даслаў ліст-абвяржэнне з тлумачэннем, чаму ён паэт, а Зміцер Вішнёў — не. Л. Галубовіч ставіўся да такіх гісторый з гумарам, але часам адчувалася ў яго тэкстах пэўная насцярожанасць і нязвыклая стрыманасць.

Дакаралі Л. Галубовіча і з іншай нагоды — маўляў, крытык «залішне крытычны». Быццам бы звяртаючы ўвагу на недахопы ў творчасці пэўных аўтараў, ён не папулярызаваў літаратуру, адваджваў ад яе. Але папрокі гэтыя несправядлівыя. Вінаваціць самога крытыка ў тым, што кніга, якую ён разглядае, слабая, абсурдна. Ці не лепш скіраваць прэтэнзіі да аўтара?..

Нягледзячы на часовы адыход ад мастацкай творчасці, Л. Галубовіч ні на хвіліну не пераставаў быць паэтам. Незапатрабаваная творчая энергія шукала выйсця. Адсюль — процьма наватвораў, гульня слоў, яркія жарты і параўнанні, якімі крытык шчодра аздабляў свае тэксты. У процівагу вызначэнню «барадульны стыль», якое некалі прыдумаў Міхась Стральцоў, Л. Галубовіч стварае стыль «брыдульны». Для вершаў, пазбаўленых паэзіі, ён прыдумвае азначэнне «прыстольныя вершы». Паэта Л. Дранько-Майсюка крытык называе Сусаніным, які заводзіць жанчын у «свой паэтычны неруш». Словам, забаўляўся ад душы, пры гэтым прыносячы вялікую карысць беларускай літаратуры: не раз даводзілася чуць, што ў 2000-я «ЛіМ» шукалі адмыслова для таго, каб пачытаць новы выпуск «ЛеГалізацыі» ці «Кулуараў». А гэта значыць, у вялікай колькасці чытачоў на слыху былі імёны беларускіх пісьменнікаў, назвы новых кніг.

Між тым крытыка Л. Галубовіча не раз ставалася нагодай для спрэчак. Прыкладам, ці дазвальняльна крытыку быць падкрэслена суб'ектыўным, ставіць сваё «я» ўпоравень з творам, з яго аўтарам?.. Неэтычна, ці не так? Але што рабіць, калі і сам крытык — паэт?

Вы запытаецеся, у чым выяўлялася тая ўзмоцненая суб'ектыўнасць. Яскравы прыклад — стаўленне да рускамоўнай літаратуры Беларусі. Так, для яго паняцце «рускамоўная беларуская літаратура» непрымальнае. Такіх творцаў ён не адносіў ні да нашай культуры, ні да расійскай і ўсур'ёз перажываў за падобную «непрыкаянасць». «Руская мова… з'яўляецца ў Беларусі першаснай і асноўнай моваю зносін у грамадстве, [але] да гэтай пары так і застаецца другаснай моваю ў беларускай літаратуры… Усё-ткі нацыянальны код у падсвядомасці большасці народа захоўваецца». Цікава, ці не змяніліся погляды Леаніда Міхайлавіча?

Што яшчэ цікава, для Л. Галубовіча існуе літаратура — і літаратура жаночая. Наўпрост ён гэтага не казаў, але тое заўважна — у здзіўленні, што думка ў вершы не па-жаночы глыбокая, ці захапленні, з якім крытык адзначаў рэчы, якія так адчуць і ўбачыць можа толькі жанчына.

І зусім асаблівыя былі ў той час стасункі Л. Галубовіча з Паэзіяй: яны дужа нагадваюць стаўленне юнака да дзяўчыны, з якой той «навечна» расстаўся, але кахаць не перастаў. Развагі Л. Галубовіча пра паэзію заўжды ператвараліся ў мастацкія замалёўкі, а часам — у своеасаблівыя оды. Ён пры-знаваў права творцы гуляць са словам, прызнаваў права «жангляваць» чужымі тэкстамі, але ніколі не называў такіх творцаў паэтамі. Практыкаванні іх атрымлівалі найменне «пустапарожніх рэхаслоўных грымотаў». У разуменні Л. Галубовіча паэзія не тое, што ў чалавеку, але тое, што па-над ім, невытлумачальнае і непадуладнае. Ён абавязкова прыкмячаў, наколькі сур'ёзна аўтар ставіцца да сваіх твораў, наколькі строгі быў адбор, і пры гэтым канстатаваў: сучасным паэтам бракуе самакрытычнасці (з гэтым цяжка не пагадзіцца).

Пэўна, другая па значнасці тэма для Л. Галубовіча — жыццё пісьменніка ў правінцыі. Ведаючы па ўласным досведзе, што гэта такое, ён часта распавядаў пра цяжкасці, з якімі сутыкаецца творца, адарваны ад свайго асяродку.

І, канечне ж, Л. Галубовіч разважаў пра крытыку. Яшчэ ў самым першым выпуску «ЛеГалізацыі» ён адзначыў галоўную праблему: крытыка не ахоплівае літаратурнага працэсу цалкам — ці хоць бы большую частку новых кніг. Яна абмяжоўваецца «кропкавымі ўдарамі», з якіх скласці цэласную карціну даволі складана. Сур'ёзныя ж, заглыбленыя развагі з'явіліся ўжо ў «Кулуарах». Тут Л. Галубовіч акрэсліў ролю крытыка — так, як ён яе разумее: «Не суддзём і тым больш не пракурорам павінен быць прафесійны крытык, а менавіта адвакатам, які, прымаючы да ведама віну і праступак «падследнага аўтара», павінен, не зважаючы ні на што, упарта шукаць і знаходзіць апраўданне яму і змякчэнне меры «пакарання»…». Яшчэ большай увагі заслугоўвае іншае яго выказванне: «Ёсць небяспека, калі сам крытык спрабуе пісаць нешта мастацкае (прозу ці паэзію). Тут ён павінен памятаць тыя свае настаўленні, заўвагі і крытычныя закіды, зробленыя ім да твораў і творчасці іншых літаратараў, каб не быць папракнутым імі ў тым самым».

Паэтычнае маўчанне Леаніда Галубовіча перарвала кніга вершаў «З гэтага свету» — але крытычнай дзейнасці ён так і не пакінуў. А што да «Кулуараў», то ў значнай ступені вынікам іх стала кніга «Сыс і Кулуары», што выйшла ў выдавецтве «Літаратура і Мастацтва» ў 2010 годзе.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Усе шляхі вядуць... у Шчучын

**Штогод у першую нядзелю верасня ў нашай краіне святкуецца Дзень беларускага пісьменства. Гэтым разам цэнтрам свята стане горад Шчучын. Выдавецтвы і пісьменнікі актыўна рыхтуюцца прэзентаваць вынікі сваёй працы за мінулы год. Як праходзіць падрыхтоўка да свята ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» і якія кніжныя навінкі чакаюць гасцей Шчучына шостага верасня, распавёў галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп.**

**— Віктар Анатольевіч, якія цікавыя праекты да свята вы рэалізоўвалі ў гэтым годзе?**

— Кожны год да Дня беларускага пісьменства ў нас выдаецца кніга прозы, паэзіі і публіцыстыкі тых пісьменнікаў, якія нарадзіліся, жылі, працавалі ў раёне, дзе адбываецца свята. Гэты год не выключэнне. У Шчучын мы паедзем з кнігай серыі «Беларусь літаратурная» «Шчучыншчына літаратурная». Яе склаў пісьменнік, літаратуразнаўца Алесь Марціновіч. У выданне ўвайшлі творы каля сарака вядомых аўтараў, а таксама вершы вучняў школ Шчучынскага раёна. Таксама мы падрыхтавалі кнігу прозы і паэзіі маладых пісьменнікаў «Мой дзень пачынаецца». Яна складаецца з твораў сарака пяці празаікаў і паэтаў, узрост якіх — ад дзевятнаццаці да трыццаці трох гадоў. Гэтыя аўтары ўжо маюць публікацыі ў часопісах і газетах, некаторыя з іх прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Кніга «Мой дзень пачынаецца» актуальная ў Год моладзі. Аформіла яе маладая мастачка Анастасія Капульцэвіч. Цяпер у нашых планах — кожны год выдаваць падобны зборнік.

Сёлета наша краіна святкуе сямідзесяцігоддзе з дня Перамогі, і на пачатку года ў нас выйшла незвычайная кніга «Дзеці пра вайну: малююць і пішуць». Школьнікі запісалі ўспаміны дзядоў і бабуль, ілюстрацыі таксама дзіцячыя. Кніга паказвае, наколькі таленавітая сучасная моладзь.

**— З якімі навінкамі кнігавыдання паедзеце ў Шчучын?**

— Прэзентуем «Блакадную кнігу» Алеся Адамовіча і Данііла Граніна. Таксама будуць прадстаўлены кнігі Анатоля Сульянава «Пасееш вецер», Сяргея Трахімёнка «Аповесці розных гадоў», кнігі пісьменніка і публіцыста Міхаіла Шыманскага «Мы гэтай памяці верныя», «Дзякуй, салдаты, за Перамогу!» «Пабрацімы», прысвечаныя 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамозе ў Вялікай Айчыннай вайне. Будзе прадстаўлена серыя «Залатая калекцыя беларускай літаратуры», выхад якой запланаваны ў пяцідзесяці тамах. Дзевяць з іх ужо пабачылі свет. Новы ж том прысвечаны творчасці Янкі Купалы. На свяце можна будзе азнаёміцца і з 9 тамамі твораў Уладзіміра Караткевіча са Збору твораў у 25 тамах. Сярод аўтараў дзіцячай літаратуры будуць прадстаўлены кнігі Сяргея Давідовіча, Наталлі Бучынскай, Віктара Гардзея, Анатоля Зэкава, Алеся Карлюкевіча, Валерыя Гапеева і іншых пісьменнікаў. Дарэчы, кнігу для дзетак Івана Шамякіна «Цуд на краі свету» мы таксама прывязём у Шчучын. Усе дзіцячыя творы, напісаныя Іванам Пятровічам, не страцілі актуальнасці, на іх выраслі многія сучасныя пісьменнікі і чытачы.

**— Назавіце новыя імёны ў сучаснай беларускай літаратуры?**

— Перадусім — са зборніка прозы і паэзіі маладых аўтараў «Мой дзень пачынаецца»: Вольга Агапонава, Яўген Казарцаў, Алена Бабіч, Наталля Баламут, Мікіта Волкаў, Кацярына Карповіч, Ірына Карэліна, Ганна Чумакова і іншыя. Людміла Клачко і Кацярына Массэ нядаўна былі прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Імёны гэтых аўтараў не будуць адкрыццём для тых, хто чытае



часопісы «Нёман» і «Маладосць». Наша выдавецтва падтрымлівае творчую моладзь — будучыню нашай краіны і ўсёй беларускай культуры. Выданне першай кніжкі ў «Мастацкай літаратуры» — зазвычай падзея не толькі для аўтара, але і для ўсёй сучаснай беларускай літаратуры.

**— «Мастацкая літаратура» ладзіць мерапрыемствы напярэдадні Дня беларускага пісьменства?**

— Ужо другі год мы сумесна з «Белкнігай» і іншымі зацікаўленымі выдавецтвамі ажыццяўляем праект «Лета з добрай кнігай», у якім удзельнічаюць амаль усе нашыя аўтары. Нядаўна ў Доме кнігі «Светач» адбыўся літаратурны марафон, які пачаўся а першай гадзіне дня і скончыўся толькі а адзінаццатай вечара. Чытачы прыходзілі на сустрэчу з пісьменнікамі, задавалі пытанні, самі ўдзельнічалі ў прэзентацыі кніг. І наогул, нашых пісьменнікаў часта запрашаюць на сустрэчы ў школы, бібліятэкі, вышэйшыя навучальныя ўстановы. Аўтары заўсёды адгукаюцца на прапанову паўдзельнічаць у літаратурных мерапрыемствах, смела ідуць на кантакт з чытачамі: гэта дапамагае зразумець, чаго чытач жадае.

**— У якім складзе ваша выдавецтва будзе ў Шчучыне?**

— Паедзе наш дырэктар Алесь Мікалаевіч Бадак, я і ўсе зацікаўленыя супрацоўнікі. Вядома, Шчучын не так блізка, як Заслаўе, таму ўсім калектывам паехаць не атрымаецца. Будуць і аўтары, з якімі мы супрацоўнічаем. Я лічу, што на сустрэчах з чытачамі галоўнае — пачуць заўвагі і прапановы. Слухаць толькі ўдзячныя словы прыемна, але больш карысна пачуць падказкі ад тых, каго цікавіць творчасць.

**— Чаго чакаеце ў гэтым годзе ад Дня беларускага пісьменства?**

— Я чакаю свята, і яно будзе. У гэты дзень усе шляхі будуць весці ў Шчучын. Шостага верасня там збярэцца вялікая колькасць пісьменнікаў, людзі з усёй Беларусі. Аўтары атрымаюць магчымасць абмеркаваць зробленае, падзяліцца планамі на будучыню. Дзень беларускага пісьменства — гэта свята паэзіі, свята беларускай душы. Яно аб'ядноўвае, натхняе, падмацоўвае гонар за нашу Беларусь. Вернемся са свята — працягнем працу над стварэннем канцэпцыі чарговай кнігі, якая папоўніць серыю «Беларусь літаратурная».

**— Як бачна, выдавецтва «Мастацкая літаратура» вельмі плённа папрацавала сёлета. А што наконт планаў?**

— У серыі «Нашы героі» выдадзім кнігу пра алімпійскую чэмпіёнку, Героя Беларусі Дар'ю Домрачаву. Рыхтуецца кніга пра цудоўны ансамбль «Верасы», што папоўніць серыю «Беларусь музычная». Дарэчы, ужо рыхтуецца кніга, прысвечаная жыццю і творчасці класіка беларускай літаратуры Кузьмы Чорнага. Сёння мы працуем не толькі з прозай і паэзіяй, але і выдаём кнігі пра таленавітых людзей Беларусі, якімі ганарымся і будуць ганарыцца нашчадкі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Зразумець сусвет

**Сяргей Трахімёнак з тых пісьменнікаў, якія смела бяруцца за асэнсаванне новых тэм. Пераканацца ў гэтым можна, пазнаёміўшыся з раманам «Чаша Петры, ці Руская цывілізацыя…», аповесцю «Геном Ньютана». А фільм «Прыцяжэнне Альберта Вейніка», створаны па ягоным сцэнары, запэўніў і ў тым, што пісьменніку цесна ў звыклых празаічных рамках. Дарэчы, стужка на Нью-Ёркскім фестывалі неігравога кіно стала пераможцай у намінацыі «Дакументальная драма».**

Цяпер пра тое, што аб'ядноўвае названыя раман, аповесць і фільм. Па словах спадара Сяргея, гэта даследаванне светапогляднага крызісу чалавецтва. Прасцей кажучы, пісьменнік задумваецца (як і многія), куды рухаемся ўсе мы, што чакае нас, да чаго можа прывесці неабдуманае выкарыстанне прыродных рэсурсаў, свядомае і несвядомае парушэнне саміх законаў прыроды. Аднак калі мы толькі задумваемся, то С. Трахімёнак мадэлюе шляхі выхаду з крызісу, што ўсё настойлівей нагадвае пра сябе.

У сувязі з гэтым сімптаматычна з'яўленне містычнага рамана «Тунгускі балід», што асобнай кнігай выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Тунгускі метэарыт упаў, як вядома, у 1908 годзе, але чым больш часу мінае, тым больш узнікае самых розных тлумачэнняў з'яве. Паводле самай распаўсюджанай, адбыўся выбух вялікага метэарыта, які ўрэзаўся ў зямлю. Не адмаўляецца і тое, што мог выбухнуць метан, што ўтварыўся ад незлічонага мноства таежнага гнусу. Ёсць, аднак, і куды больш «экзатычныя» версіі. Па адной з іх, пры старце мог узарвацца касмічны карабель, пабудаваны невядомымі нам цывілізацыямі, якія папярэднічалі сучаснаму чалавецтву. Не адмаўляецца і такая версія, як дачыненне да гэтай катастрофы Ніколы Тэсла. І менавіта ад яе адштурхоўваецца С. Трахімёнак.

Ніколу Тэсла называюць тым, хто вынайшаў XX стагоддзе. Менавіта ён хацеў утаймаваць энергіі Сусвету, зрабіўшы іх даступнымі для ўсіх. Ён эксперыментаваў з чацвёртым станам рэчыва — так званай праменістай энергіяй — плазмай. Гэта касмічныя праменi, ці энергіі, якія мы назіраем у выглядзе палярных ззянняў. І, па адной з версій, у 1908 годзе хацелі ліквідаваць плазмоід, утвораны намаганнямі Тэслы.

Раман «Тунгускі балід» нямала распавядае пра ягоныя вопыты ды пэўныя моманты жыцця Тэслы, якія дапамагаюць лепей зразумець яго феномен. З гэтым у творы звязаная адна з сюжэтных ліній. Паралельна развіваецца другая — дзейнасць тайнага таварыства, якое, разумеючы, да чаго можа прывесці «гульня» з плазмай, імкнецца прадухіліць магчымую катастрофу. Трэцяя лінія — жыццё на планеце Літо, якая з'яўляецца «касмічнай процівагай» Зямлі.

С. Трахімёнак умела карыстаецца элементамі містычнага, але гэта не псуе твор. Пісьменнік нязменна імкнецца да таго, каб займальнасць твора не замінала той унутранай задачы, якую ён паставіў перад сабой.

І ўважліва чытаючы твор, няцяжка заўважыць, у чым задача заключаецца. Найбольш выразна гэта бачна на завяршэнні рамана, калі адбываецца дыялог сучасных вучоных. «Як спецыяліст па энергіях, скажу, Розум перашкаджае ажыццяўленню затратных варыянтаў развіцця. Аднак ёсць яшчэ адзін аспект праблемы. Чалавек — «механізм», пры дапамозе якога Розум можа дасягаць сваіх мэтаў. Па вобразе і падабенстве Розуму дзейнічае і сам чалавек, калі, у сваю чаргу, для дасягнення сваіх мэтаў робіць неабходныя яму прадметы. […] Сто гадоў назад Розум нам дапамог». На пытанне другога вучонага, як быць цяпер, першы адказвае, што з тупіка, які ўзнік, неабходна выходзіць самім. І падказвае два варыянты:

«[…] Першы можна назваць рэальным. Як і сто гадоў назад, прыляцяць іншапланецяне і выратуюць нас.

— А другі?

— Другі, на жаль, фантастычны: мы зразумеем Сусвет і сябе і выйдзем з гэтага тупіка самі».

Зразумець Сусвет — задача архіважная. У рамане «Тунгускі балід» адказу, як жа гэтага дасягнуць, няма. Адно бясспрэчна: падобныя раманы здатныя актывізаваць грамадскую думку ў неабходным кірунку.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Генадзь Аўласенка: паэт, празаік, драматург

Шлях да літаратуры ў Генадзя Аўласенкі адрозніваўся ад пасляваеннага пакалення творцаў, для якіх традыцыйнай сталі філфакаўскія калідоры. Нарадзіўся пісьменнік 16 жніўня 1955 года ў в. Ліпавец Ушацкага раёна. Месца знакавае па прычыне зямляцтва ажно з трыма народнымі — Петрусём Броўкам, Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным. Аднак літаратурная творчасць не адразу стала прафесіяй. Спярша Г. Аўласенка выпрабоўваў сябе падарожжамі па суворай Сібіры і працоўным досведам у тых умовах. Пасля — шматгадовая настаўніцкая праца ў правінцыйнай школе на радзіме.

Разам з тым да літаратуры са спробамі асабістага крэатыву цягнула заўсёды. І тут якраз назіраецца пэўная сугучнасць з творчай эвалюцыяй іншых беларускіх пісьменнікаў. Спачатку былі вершы — рускамоўныя, затым — на роднай. Менавіта пераход на мову продкаў стаў паваротным для таго, каб творца раскрыўся і адбыўся ў некалькіх пісьменніцкіх іпастасях.

Вынікам паэтычных перажыванняў Г. Аўласенкі з канца 1980-х гг. сталі шматлікія публікацыі ў рэспубліканскіх перыёдыках і зборніках паэзіі. У 2003 г. пабачыла свет першая кніга — зборнік вершаў «Час збіраць камяні». Пяро творцы з поспехам асвойвала іншыя літаратурныя фарматы. Неўзабаве пачалі выходзіць на абедзвюх дзяржаўных мовах кнігі прозы: «Гісторыя замест матэматыкі» (2008, 2013), «Дзікія кошкі Барсума» (2009), «Палоннікі чорнага лесу» (2011), «Дазвольце стаць вашым слугой» (2014), «Ключ, які нічога не адмыкае» (2014) і іншыя. Па іх выяўляецца творчая цяга аўтара, па-першае, да літаратуры, спароджанай перадусім асабістай фантазіяй, па-другое, да пэўнай белетрызаванасці мастацкіх тэкстаў з разлікам на шырокае чытацкае кола.

Найбольшую вядомасць Г. Аўласенку прынесла творчасць для дзяцей. Яму плённа працавалася ва ўсіх трох літаратурных родах. Поспехам карыстаюцца рускамоўныя гісторыі пра Ветрыка з Вентылятара (пра яго прыгоды выйшлі ўжо чатыры арыгінальныя выданні — у 2009, 2010, 2012 і 2014 гг.), кнігі на беларускай мове «Вася Лайдачкін у краіне Шкодных Звычак» (2009), «Казкі дзядулі Дняпра» (2013), «Дашачка і чароўныя акуляры» (2014).

Пэўнае прызнанне, неаднаразова адзначанае ўзнагародамі на конкурсах, і запатрабаванне ў чытачоў, радыёслухачоў і тэатральных калектываў (што праўда, часцей аматарскіх) атрымала дзіцячая драматургія Г. Аўласенкі. Галоўная адметнасць яе — у спалучэнні традыцыйных падыходаў да творчасці, закладзеных яшчэ ў фальклоры, з постмадэрнісцкімі элементамі.

Можна нават казаць пра выкрышталізаванне асабістага пісьменніцкага стылю гэтага драматурга. Прыкметамі тут з'яўляюцца: класічная, блізкая сутнасцю да дзіцячай псіхалогіі і таму зразумелая характарнасць галоўных герояў, некаторыя з якіх паўтараюцца з твора ў твор (так, у п'есах «Здарэнне ў лесе», «Снегавік і вясна», «Малпачка» дзейныя асобы тыя самыя не толькі намінальна — тоесныя характарамі); пабудова вырашэння канфлікту на карысць добрых сіл, як правіла, праз іх дабрыню, узаемавыручку, самаахвярнасць, прычым нярэдка да гэтых якасцей героі прыходзяць у выніку сваёй духоўнай, валявой эвалюцыі, а не дзякуючы адпачаткова закладзеным у характары дэтэрмінантам (апошняе не тычыцца твораў толькі для дашкольнага ўзросту — «Вясновыя клопаты», «Мышаняты і мячык», «Як павука з луга праганялі»). У тэкставай тканіне сваёй творчасці для дзяцей Г. Аўласенка не цураецца некаторай літаратурнай гульні з патэнцыяльным рэцыпіентам, часта ўжываючы даступныя, нескладаныя алюзіі ці адкрытыя згадкі вядомых мастацкіх



твораў, а некаторыя творы (напрыклад, п'есы «Як казкі пераблыталіся» і «Вася Лайдачкін у Краіне казак») цалкам створаны на аснове такога матэрыялу.

Разам з тым і вершаў (з чаго пачынаў сваю літаратурную біяграфію) Г. Аўласенка не пакідае. Сведчаннем таму — яго апошнія публікацыі ў перыёдыках.

У дадзеным выпадку можна з упэўненасцю прымяняць славуты труізм пра сустрэчу свайго юбілею ў росквіце творчых сіл і паўнату надзей на рэалізацыю шматлікіх планаў.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

*Аблічча*

# Сын латгальскай зямлі

**11 жніўня 1920 года Дзвінскі, Люцынскі, Рэжыцкі паветы Віцебскай губерні, дзе пражывала значная частка беларускага насельніцтва, былі перададзены Латвіі. І ўжо ў 1921 годзе, дзякуючы падтрымцы Яніса Райніса, пры Міністэрстве асветы Латвійскай дзяржавы быў створаны Беларускі аддзел для кіраўніцтва школьнымі справамі. Сталі працаваць Люцынская (у г. Лудза) і Дзвінская (у г. Даўгаўпілс) дзяржаўныя беларускія гімназіі, па ўсёй латгальскай зямлі адкрылася каля 60 пачатковых школак.**

1 снежня 1921 года пачалі працу Беларускія дзяржаўныя настаўніцкія курсы. Сярод выпускнікоў гэтых курсаў былі Эдвард Вайвадзіш, Віктар Вальтар, Пятро Масальскі… Пра іх літаратурную дзейнасць можна прачытаць у кнізе «Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі» («Беларускі кнігазбор», 2003 г.). Я быў укладальнікам і аўтарам прадмоў таго выдання, таму асмелюся згадаць, як мы ў 1997 годзе прымалі 100-гадовага Эдварда Вайвадзіша з вёскі Вайвады ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Сын латгальскай зямлі з Прыдруйскай воласці Дрысенскага павета Віцебскай губерні займеў пазней ад Скарынаўскага цэнтра сціплы зборнічак пад назвай «Вершы, паэма, згадкі». Блаславіў яго Адам Мальдзіс. А вось дзякуючы маладзечанскаму энтузіясту Міхасю Казлоўскаму ў 2009 годзе была выдадзена салідная кніга Віктара Вальтара «Выбраныя творы».



Фота С. Панізніка.

Рыжскі мастак Вячка Целеш з Пятром Масальскім. 7 верасня 1978 г.

І былы настаўнік Пятро Масальскі займеў сабе не абы-які літаратурны наробак. Ён нарадзіўся 14 ліпеня 1905 года ў мястэчку Пасінь Люцынскага павета. Вучыўся ў Люцынскай беларускай гімназіі, дзе рыхтаваў штомесячнік вучнёўскай творчасці і фальклорных запісаў «Ластаўка». Захапленне літаратурай пачалося са знаёмства з паэмай «Тарас на Парнасе», якую ведаў на памяць. У 1929 годзе Пятро Сакол (такім псеўданімам падпісваў П. Масальскі свае публікацыі ў прэсе) атрымаў з рыжскага беларускага выдавецтва зборнік вершаў «На сьвітаньні». Пазней ён перакладаў творы рускіх, украінскіх паэтаў, паэзію Райніса, прозу Я. Порука, захапіўся латышскай народнай творчасцю.



Пятро Масальскі. 1930-я гады.

Яшчэ ў 1935 годзе падрыхтаваў зборнік перакладаў латышскіх дайнаў. Але невялікая падборка ўбачыла свет дзякуючы Арсеню Лісу толькі ў 1979 годзе. Зборнік жа перакладаў пад назвай «Дайны» выйшаў у Мінску ў 1987 годзе.

Складзеная Пятром Аляксандравічам багатая картатэка беларуска-латышскага слоўніка прапала, на вялікі жаль, у час вайны. Затое перакладзеныя ім латышскія народныя казкі былі даведзеныя да ладу ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» рэдактаркай Аленай Масла. Цудоўны зборнік «Добрыя лекі» ў аздобе Марыі Каратаевай убачыў свет у 2013 годзе.

А нагода ўзгадаць хоць у невялічкім аб'ёме творцу з латгальскай зямлі такая. Споўнілася 110 гадоў ад нараджэння паэта, які пісаў:

*Я вольны сын неба! Сакол*
*я свабодны!*
*Мне цяжкіх жалезных*
*ланцугаў не трэба.*

Свой верш «Я вольны сын неба» Пятро Сакол закончыў 20 лістапада 1923 года ў Люцыне такімі радкамі:

*Дарогу мне к сонцу! Дарогу*
*к свабодзе!*
*Стучыцца ўжо шчасце*
*к маёму ваконцу.*
*Лячу абуджаць я надзею*
*ў народзе, —*
*Дарогу к свабодзе! Дарогу*
*мне к сонцу!*

Самыя цяжкія ланцугі — гэта ланцугі забыцця. Вось мы і адкінулі іх, каб згадаць летуценніка-сакола, якога не стала 30 гадоў таму, 6 ліпеня 1985 года. Але яго ўклад, як і яго суайчыннікаў, у працяг райнісаўскіх традыцый пабрацімства, латышска-беларускага духоўнага спараднення адчуваецца нашымі чытачамі і сёння.

І нібыта з вуснаў самога фальклардыста перагукваецца з намі перакладзеная ім дайна:

*Ах, мой голас, голас зычны*
*Гулка ўдаль разносіцца:*
*Як іду я і спяваю,*
*Аж лясы гайдаюцца.*

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# Невычэрпная сіла

**Шмат людзей змагаюцца да апошняга: заваяваць сэрца каханага чалавека, дамагчыся поспехаў у прафесіі, калі ўсе вакол паўтараюць, што нічога не атрымаецца, і, нарэшце, пераадолець самыя цяжкія захворванні. Пра такіх кажуць «нязломныя». Дзве кнігі моцнай духам асобы выйшлі ў Выдавецкім доме «Звязда»: «Лісты да сына» і «Не хачу губляць надзею». Аўтар, Немат Келімбетаў, — пісьменнік, заслужаны дзеяч навукі Казахстана, перакладчык, вучоны-цюрколаг … Але не гэта галоўнае. Дзякуючы выданням, у многім аўтабіяграфічным, мы бачым яго чалавекам, які здолеў захаваць цеплыню душы, добразычлівасць і невычарпальную любоў да жыцця, нягледзячы на невылечную хваробу, якая прыкавала яго да ложка на доўгія гады. Гэтая проза гучыць як запавет і споведзь — мудрага філосафа і адданага бацькі. Ён прымушае нас не адкладваць жыццё на заўтра, паказвае, дзе хаваецца гаючая крыніца волі чалавека, вучыць ніколі не здавацца.**





## ЯК ПАДМАНУЦЬ СМЕРЦЬ?

Вы можаце падняць руку? А цяпер прайдзіцеся па пакоі. Адчуваеце, як паветра пранікае ў лёгкія, працуюць мышцы, пульс становіцца часцей? Гэта не медытацыя, а ўменне адчуваць жыццё, кожную яго хвіліну — прычым як цела, так і душы. Здаровым цяжка зразумець хворых, але паспрабаваць можна — каб навучыцца цаніць тое, што ёсць, і перастаць скардзіцца на дробязі. Аб гэтым — аповесць-маналог «Не хачу губляць надзею», якая лічыцца адным з лепшых твораў Немата Келімбетава.

У цэнтры ўвагі — гісторыя маладога мужчыны, Ержана, які перанёс складаную нейрахірургічную аперацыю і застаўся ў нерухомасці на дзесяць гадоў. Дарэчы, гэта і гісторыя самога аўтара, які таксама пазбавіўся бязмернай радасці ад вясёлых прагулак з дзецьмі, «асалоды ад басаногай прабежкі па пяшчотным аксаміце вясновага разнатраўя, шчасця палёту на наравістым жарэбчыку па бяскрайнім стэпе».





Не разлічвайце знайсці ў кнізе скаргі на несправядлівы лёс ці плач па страчанай маладосці. Маналог вядзе моцны духам чалавек, які рашуча вае за жыццё дзеля сваёй сям'і. «Я перажываю, што ні разу не нарваў любімай жонцы кветак сваімі рукамі. Гэта мой доўг! Я павінен яго выканаць. Я абавязаны вытрымаць…» — кажа ён.

Лежачы ў бальніцы, герой упершыню шчыра размаўляе са сваім сумленнем, разумее, колькі не паспеў зрабіць, сказаць, якія абяцанні не стрымаў. «У нас заўсёды не хапае часу пагаварыць з блізкімі людзьмі, раскрыць ім душу. Чаму? Таму што яны заўсёды даруюць нам грубасць і глупства. Мы адчуваем гэта і адказваем няўдзячнасцю на добро». Увогуле, разважанні ў кнізе — самая дзейсная прышчэпка ад эгаізму.

«Я паміраў кожны дзень, але заставаўся ў жывых, каб зноў і зноў адчуць боль. Часам мне падавалася, што гэты боль — адзінае пацвярджэнне майго існавання», — прызнаецца хворы ў пачатку аповесці. І тут жа адштурхоўвае сум, знаходзіць свой шлях да выратавання і прапаноўвае яго кожнаму. Гэта — любоў, адчуванне, што блізкі чалавек побач. Менавіта жонка дапамагла Ержану (і Немату Келімбетаву) выратавацца. Яшчэ адзін прататып у аповесці — супруга пісьменніка Куаныш, вельмі мудрая, мужная і сціплая жанчына. У творы вядзецца маналог і ад яе імя.

Аўтар дапамагае зразумець, чаго баіцца чалавек, прыкаваны да ложка. Справа не ў болі, як думаюць многія, а ва ўсведамленні сябе назаўсёды бездапаможным.

Чытачы побач з героем прыходзяць да цэлага шэрагу высноў: што ж такое сапраўдны страх і як яго пазбегнуць, чаму шчасце не можа быць пастаяннай велічынёй, а ісціна лепей за прыгожую ману... І галоўнае: проза Немата Келімбетава начыста пазбаўлягае ад змрочных думак.

Больш за тое, кніга адкрывае вочы. «Хіба ёсць большая асалода, чым назіраць, як на небе нараджаецца світанак? Той ноччу я ўпершыню ўсвядоміў гэта. Ахопленыя паўсядзённымі справамі, мы прапускаем дзіўныя і вялікія рэчы». На жаль, не кожны можа зразумець прыгажосць свету. Многія людзі развучыліся марыць і захапляцца. «Зялёная трава падаецца мне жамчужынай з марскіх глыбінь. Мройналёгкія галінкі яблынь адліваюцца срэбрам», — так кажа чалавек, які глядзіць на свет праз вокны бальніцы. А мы завешваем іх фіранкамі… Хочацца верыць, што кніга дапаможа ўбачыць цуды, якія зусім побач.

У аповесці распавядаецца не толькі пра Ержана, а і пра тых людзей, з якімі ён сустрэўся на шляху жыцця: сяброў, ворагаў, таварышаў па палаце. Іх прыклады таксама вельмі павучальныя. Увогуле, прыходзіш да высновы, што злосць і жорсткасць — не паказчык сілы. Дабрыня і любоў — вось што галоўнае. Нават калі многія называюць гэта сентыментальнасцю, слабасцю, жывуць толькі дзеля сябе. Пашкадуйце такіх людзей, слухайце сваё сэрца. Натхняйцеся мудрымі кнігамі.

## САЮЗ ПАКАЛЕННЯЎ

Кніга «Лісты да сына» Немата Келімбетава нагадвае энцыклапедыю жыцця. Бацька дае каштоўныя парады сыну, разважаючы пра дабрыню і злосць, падман і шчырасць, сілу духу і цела. Зборнік складаецца з трыццаці двух эсэ, у кожным з якіх аўтар падрабязна разбірае пытанні чалавечага існавання.

На пачатку аповеду Немат Келімбетаў прызнаецца, што яго перапаўняюць думкі, нібы «вада ў казане, што стаіць на агні». Часта так здараецца: калі дзеці з'язджаюць з роднага дома, бацькі разумеюць, як многа не паспелі ім патлумачыць. Настрой аўтара аб'ядноўвае ўсіх, хто перажывае разлуку з дзецьмі, і ўсіх, хто проста хоча знайсці ісціну ў жыцці. Ці ж гэта магчыма? Чытайце, даведаецеся!

Перш за ўсё ў кнізе гаворыцца пра сутнасць сяброўства, галоўнай умовай якога ён лічыць роўнасць, а адзіноту, напрыклад, поўнасцю адхіляе як чужародны для чалавека стан.

«Лісты да сына» можна смела разбіраць на цытаты, уключаць у падручнікі па філасофіі і выкладаць на ўроках літаратуры. Кожнае эсэ — гэта не проста дыдактычныя разважанні, а поўны метафар, эмацыянальны, высокамастацкі твор. «Калі чалавек малады душой, то з гадамі яго цікавасць да жыцця, да свету не згасае, а разгараецца з новай сілай. Моцны духам чалавек непераможны. А бездухоўны — толькі з выгляду здаецца жывой істотай», — трапна адзначае пісьменнік.

Немат Келімбетаў увесь час акцэнтуе ўвагу на сувязі пакаленняў, нагадвае нашчадкам, як важна памятаць традыцыі продкаў, свайго народа, сям'і. Што было ўласціва далёкім прашчурам казахаў — дабрыня ці жорсткасць? Паводле слоў аўтара, яны былі гасціннымі, цяплівымі людзьмі, заўжды адгукаліся на чужое гора. У казахскага народа дабрыня лічылася боскім дарам.

Вялікую частку кнігі складаюць своеасаблівыя падарожжы ў гісторыю — да сакаў, гунаў, нябесных цюркаў, адважных воінаў і легендарных палкаводцаў, якія не ведалі паражэння, батыроў, што ўзначальвалі вялікія войскі, знакамітых казахскіх прамоўцаў і вучоных. Немат Келімбетаў знаёміць сына (і чытачоў) з творамі казахскай вуснай народнай творчасці, якія былі створаны тысячы гадоў таму, — паданнямі, эпасамі і дастанамі. Шмат распавядае пра такіх вядомых для казахаў асоб, як цар старажытных цюркаў Модэ ці вучоны, мысліцель, літаратуразнаўца, паэт Абу Наср аль-Фарабі. Нядзіўна, бо аўтар адным з першых у Казахстане даследаваў старажытнацюркскую літаратуру, вызначыў вытокі казахскага прыгожага пісьменства, напісаў на гэтую тэму цэлы шэраг навуковых кніг.

Немат Келімбетаў не проста дзеліцца звесткамі, а выхоўвае цікавасць і павагу да кніг, літаратуры ўвогуле. Яго бацька меў вышэйшую духоўную адукацыю. Нават старэйшыны ў ауле з павагай звалі яго Хазрэтам, што значыць «настаўнік». Ён ведаў гісторыю Усходу, літаратуру, філасофію, норавы і звычаі многіх народаў. Таму ў доме, дзе жыў маленькі Немат, старадаўнія кнігі, рукапісы — дастаны, напісаныя арабскай вяззю, былі ў асаблівай пашане, беражліва захоўваліся ў вялікім куфры, абгорнутыя мяккай тканінай. Цяпер зразумела, па чыіх слядах пайшоў сын.

Часам разважанні пісьменніка пераключаюцца ад мінулага і звяртаюцца да будучыні. Ён раіць сыну быць уважлівым да людзей, бо яны могуць як падставіць руку дапамогі, так і «загнаць у сэрца кінжал». «Трымайся далей ад тых, хто страціў сумленне і годнасць. Выбірай разумных, цягніся да іх — сам многаму навучышся», — прыкладна так гучыць запавет бацькі да сына… і ўсіх маладых людзей. Жадаеце духоўнага прасвятлення? Неабавязкова слухаць мантры ці адпраўляцца ў Тыбет — можна ўсяго толькі адкрыць гэтую кнігу…

Адны з самых частых параўнанняў у «Лістах да сына» — маладосць і старасць. Здаецца, нічога новага не адкрывае пісьменнік, але ён яшчэ раз нагадвае, што чалавек, «які не скарыў у трыццаць гадоў крэпасць, у сорак гадоў не адужае і пагорак». Звяртаючыся да сына і, адначасова, усіх маладых людзей, Немат Келімбетаў заклікае паважаць старэйшых, сваіх бацькоў, бо за іх плячыма велізарны жыццёвы вопыт, вышыня пражытых гадоў і набытых ведаў.

Любоў да радзімы — таксама запавет, адзін з самых важных, якія імкнецца данесці аўтар. З узростам яго самога ўсё часцей цягнула ў родны аул, да блізкіх сэрцу рэк і азёр, схілаў гор і вяршынь пагоркаў. Доўгія гады ён верыў, што ад крыўд, грахоў і іншых напасцяў яго аберагае светлы дух бацькоў. І, здаецца, не трэба больш ніякіх рэлігій, бо самае святое — побач.

Пасля шчырых размоў у кнізе (а менавіта так выглядаюць эсэ), знікаюць усе цяжкія думкі. Кажуць, што чалавек не мяняецца. Цалкам не пагаджуся. Чалавек стварае сябе сам — і рабіць гэта трэба ўвесь час. Дзякуючы Немату Келімбетаву, працэс самаўдасканалення набывае новую сілу. Якую б кнігу ні напісаў казахскі мудрэц, ён заўсёды навучыць самаму важнаму ў жыцці — шчасцю! Гэта не проста аморфная субстанцыя, а цэлая навука! І вы ў гэтым упэўніцеся.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Эмацыянальна? Не. Пазнавальна? Так!

**Неяк супала, што ў адзін і той жа дзень я атрымаў унікальна падобныя кніжкі: па пошце прыйшла з Берасцейшчыны бандэроль з вершаваным зборнікам Ціны Хутаранкі «Скрыжаванні буслінага краю», а з выдавецтва «Энцыклапедыкс», з якім я супрацоўнічаю даўно і плённа, перадалі шостае (!), перапрацаванае і дапоўненае выданне «Прагулак па Мінску» Якава Адэльскага.**

Нягледзячы на значную розніцу (першая кніжка створана ў асноўным на беларускай мове, другая — на рускай, аўтар першай — гаспадыня-хутаранка з вёскі Чэрні Брэсцкага раёна, другой — патомны архітэктар, дацэнт), абодва выданні вызначаюцца дзіўным падабенствам выкладання думак. Літаратуразнаўцы-эстэты, відаць, скажуць: а тут жа няма алегарычнай вобразнасці, пачуццяў (акрамя патрыятызму), амаль усё пабудавана на сістэматызавана-лагічным апісанні таго, што акаляла і акаляе аўтараў. У Ціны Хутаранкі — прырода і людзі Берасцейскага краю, у Якава Адэльскага — гэта архітэктурнае аблічча роднага Мінска, яго традыцыі (бацька аўтара, прафесар Эмануіл Адэльскі быў «супрацоўнікам і сябрам» славутага Іосіфа Лангбарда).




«Скрыжаванні буслінага краю», па вызначэнні аўтара, — гэта «зборнік вершаў, баек і балад». І адначасова першая кніга Ціны Хутаранкі (псеўданім Валянціны Карпеш), выдадзеная не самадзейным шляхам у некалькіх прынтарных экзэмплярах, а ў брэсцкай «Альтэрнатыве» (2015). «Лёс творцы, — піша ў сваёй прадмове («Слова рэдактара») да зборніка брэсцкая паэтэса-песенніца Марыя Якімук, — склаўся так, што яна нейкі час жыла і працавала ў Латвійскай ССР. Магніт Радзімы не даваў там ёй спакою, і дзяўчына вярнулася на Берасцейшчыну». Тут выхавала трое дзяцей, пахавала аднаго з іх — ужо альпініста, а таксама бацькоў. Але мужна перанесла ўдары лёсу. «Не здалася, бо ўвесь боль вылівала на паперу». На жыццё зарабляла работай на рынку…

І вось, працягвае рэдактар, аднойчы самадзейная паэтэса там «пачула ганебнае: «А хто вы такія, беларусы?! У вас няма нават сваёй гісторыі!..» Гонар за свой край, за сваю зямлю заклікаў Валянціну ў бібліятэкі, дзе яна пачала шукаць гістарычныя звесткі аб радзіме». Аднachасова ішлі роспыты старажылаў Чэрні. У выніку з'явілася некалькі вершаваных балад, уключаных у зборнік. Сведкамі мінулага




ў паэтэсы выступаюць дрэвы («Быліна пра Чэрнінскі дуб», «Дзве таполі», «Споведзь бярозы»), ветэраны, аднавяскоўцы, блізкія і далёкія продкі («Каб мода пайшла на Касцюшку»).

Жыццёвым і творчым крэда Валянціны Хутаранкі можна лічыць радкі, прыведзеныя на апошняй старонцы вокладкі яе зборніка:

*Люблю Радзіму — болей жыцця!*
*Берасцейскую ўсю старонку.*
*Чыстае неба. У ім бусляня…*
*І арабіны чырвонай гронку.*

А ў кніжцы Якава Адэльскага замест сельскага, ідылічнага пейзажа выступае ўрбаністычны. Як сведчыць падзагаловак «Пра вуліцы, дамы і будоўлі, пра стылі дойлідства», аблічча нашай сталіцы найперш цікавіць аўтара ў гістарычным развіцці. Доказам таму — загалоўкі і падзагалоўкі раздзелаў: «Дасавецкая архітэктура Мінска», «Тварэнні Лангбарда і Воінава», «Савецкага перыяду архітэктура», «Постсавецкая архітэктура», «Узнаўленне гістарычных аб'ектаў», «Скульптура гарадская» і інш. Як і належыць у выданнях няхай і вершаваных, але блізкіх да навукова-даведачнага тыпу, у канцы кнігі мы знаходзім «Заўвагі» і «Скарачэнні». У цэлым чытач прыемна ўразіцца навуковай і прафесійнай дасведчанасцю, кампетэнтнасцю аўтара. Як мне здаецца, адным з пачынальнікаў яе ў беларускай літаратуры стаў «касмічны» Язэп Драздовіч, а класічным творам, дзе эмацыянальны пачатак цудоўна спалучаецца з рацыянальным, з'яўляецца «Новая зямля» Якуба Коласа.

Значыць, пазнавальная паэзія мае рацыю быцца. І перспектывы ўдасканалення.

**Адам МАЛЬДЗІС**

*На паліцы*

# Святло вясковага калосся

На 71-м годзе, 24 лютага 2012 года адышоў у вечнасць беластоцкі беларускамоўны паэт Уладзімір Гайдук. Пры жыцці ён выдаў чатыры кнігі вершаў — «Ракіта» (1971), «Блакітны вырай» (1990), «Пах аернага хлеба» (1997) — і зборнік выбранага «Полымя роднае» (2011). Беларускія чытачы маглі пазнаёміцца з яго творамі ў анталогіі «Беларускія пісьменнікі Польшчы: Другая палова XX стагоддзя» (2000), укладзенай Янам Чыквіным.

На матэрыяле рукапісных сшыткаў У. Гайдука ў 2013-м годзе была выдадзена пасмяротная кніга недрукаваных вершаў (у тым ліку адзін па-польску) і запісаў (лістоў, аўтабіяграфічных нататак) 1967 — 2005 гадоў. Гэта кніга — «Дзівасіл» — дазваляе скласці больш поўнае ўяўленне пра жыццё і творчасць аўтара.

У. Гайдук быў сябрам літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Нежанатым самотнікам ён працаваў на хутары Полыма, займаючыся сялянскай працай, гэта адбілася на змесце яго твораў. Лірычны герой вершаў — мужчына, які прагне кахання і ўзаемаразумення, шукае дабрыні і справядлівасці. Заўважаецца ўплыў паэзіі Максіма Багдановіча і Адама Міцкевіча. Аўтар прадмовы да зборніка Ян Чыквін так гаворыць пра невыпадковасць яго назвы, пазначанай на адным з рукапісных сшыткаў паэта: «Ён [У. Гайдук. — **Т. Б.**] сам хацеў мець і мусіў мець такую *дзіва сілу* [курсіў Я. Чыквіна. — **Т. Б.**], каб на хутаранскай гаспадарцы жыць аднаму, у такіх умовах, як жыў, ды захоўваць у сабе яшчэ творчы дух ды энергію здзяйснення».

З аўтабіяграфічных запісаў мы даведваемся, што У. Гайдук пачаў пісаць вершы ў трэцім класе пачатковай школы, а першыя творы былі надрукаваныя ў 1956 годзе. Першы раз паэт закахаўся ў 1965-м, а дзяўчына пасмяялася з яго «салодкіх» вершаў. У 1966 годзе аўтар скончыў карэспандэнцыйны агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку. Згадваў, што адчувае сябе сялянскім паэтам і любіць фальклор, асабліва песні.

У. Гайдук пісаў пра Беларусь («Завявае белая мяцель…»), прыгожую прыроду Беласточчыны, («Мае сяброўкі — белыя бярозы…», «Ля калодзежа зялёныя цвітуць вяргіні…»). Аўтар лічыць, што паэзія прыдатная для выказвання мар і малітваў, што яе ствараюць пры дапамозе натхнення, цярпення і карпатлівай працы душы, розуму і майстэрства метафары («Пачынаючаму паэту (і сабе таксама)», «Паэт пасее зерне слоў…»). Мастак слова перакананы, што «вершы трэба стварыць, / Выпесціць сэрцам / І слязамі абмыць» («Кажуць: добрых паэтаў…»).

У зборніку адчуваецца жаданне аўтара зафіксаваць сваю творчую прысутнасць у гэтым свеце, выказаць захапленне жаночай прывабнасцю («Часта ўспамінаю вечар навагодні…») і штодзённымі цудамі свету («Цэлую ноч прахадзіў я па лузе…», «Аднагадовыя парасткі маладых сасонак…»). Лірычны герой У. Гайдука прагне знайсці свой адметны жыццёвы і творчы шлях («Шукаю сваёй дарогі…»). Музаю У. Гайдука заўжды была Паэзія ў яе разнастайных абліччах.

Натхнёную цяжкой сялянскай працай лірыку У. Гайдука можна параўнаць з сагрэтымі сонцам калоссямі, якія ў выглядзе хлеба на стале свецяць усім людзям («Вельмі рэдка пішуць вершы сяляне…»). Мяркую, самому паэту такое параўнанне прыйшлося даспадобы.

**Таццяна БАРЫСЮК**

# Дакрануцца да гісторыі

Заўсёды ўражвае, калі вывучаная па падручніках мінуўшчына раптам робіцца выразнай да такой ступені, што можна дакрануцца да яе. Менавіта такое ўражанне стварае кніга Аляксея Шалахоўскага «Кальварыя. Гісторыя і сучаснасць», што ўбачыла свет у выдавецтве «Каўчэг».




Аб'ектам даследавання аўтара сталі мінскія Кальварыйскія могілкі. Шчыра скажу, наведваць іх мне не даводзілася, і ўсё ж, калі еду побач, узнікае думка: «Добра, што мінаць іх даводзіцца ўдзень, а не ноччу». Нездарма ж «гарады памерлых» закладаліся на пэўнай адлегласці ад населеных пунктаў — каб жывых не парушалі спакой.

Так было і з Кальварыяй. У 1852 годзе Павел Шпілеўскі ў нарысах «Вандроўкі па Палессі і беларускім краі» пісаў: «Кальварыя… рыма-каталіцкія могілкі з каменным касцёлам; вакол яе арэхавы лес, багаты на грыбы і розныя ягады». Але сталіца разрасталася і паглынула лес, і мяжы, перасякаючы якую людзі паспявалі пераладзіць думкі са штодзённых клопатаў на вечнае, больш няма. Нагодай зазірнуць сюды можа стацца звычайная цікавасць.

Прозвішчы, што сустракаліся на старонках падручнікаў, чытаеш на помніках: Янка Лучына, Ян-Баляслаў Луцкевіч (бацька вядомых дзеячаў беларускай гісторыі Івана і Антона Луцкевічаў), Вацлаў Іваноўскі (паплечнік братоў Луцкевічаў)…

У 1967 — 1997 гг. могілкі былі зачыненыя для пахавання. Старыя могілкі амаль у цэнтры горада… Час змяняў каштоўнасці і выпрабоўваў чалавечае сумленне. Знайшліся тыя, хто намагаўся пабудаваць на вольным кавалку ў паўднёва-заходняй частцы кааператыў па вырабе помнікаў, і тыя, хто прапанаваў увогуле зруйнаваць іх — гэта ж які кавалак гарадской плошчы! Знайшліся і тыя, хто не падтрымаў прадпрымальнікаў, і тыя, хто даглядаў чужыя пахаванні.

У 1998-м тут зноў дазволілі хаваць нябожчыкаў. На Кальварыйскіх могілках знайшлі апошні прытулак першы рэктар універсітэта імя Сахарава Аляксандр Люцко, народны пісьменнік Беларусі Іван Навуменка, паэт Алесь Пісьмянкоў, пісьменнік Вячаслаў Адамчык і літаратар Алесь Траяноўскі. Дзеячы культуры, святары, іх родзічы…

Нагадае Кальварыя і пра трагедыю на Нямізе ў маі 1999-га — помнік адной з яе ахвяр, Машы Іньковай, сімвалізуе памяць пра гэтую жудасную падзею. А ўвосень 2008-га побач з могілкамі пабудаваны помнік 14 тысячам вязняў Мінскага гета, знішчаным у 1941—1943 гг.

Сучаснасць прымушае па-іншаму глянуць на «горад памерлых», упісаць яго ў культурную прастору сталіцы. Зрабіць традыцыяй прыносіць сюды кветкі ў дні памяці ахвяр Вялікай Айчыннай. Прыводзіць старшакласнікаў і студэнтаў дзеля добраўпарадкавання апошняга прытулку тых, чые імёны яны ведаюць па падручніках.

Не прамінаць паказваць гэты куточак горада нашым далёкім сябрам — нароўні з музеямі і іншымі знакамітымі месцамі беларускай сталіцы.

На жаль, адзначае аўтар кнігі, апошні помнік XVIII стагоддзя (калі была заснавана Кальварыя) абрынуўся гадоў дзесяць таму…

**Зміцер ХВОЙНЫ**

# Паэт, які пры жыцці атрымаў любоў народа

**У кожнага народа ёсць свой Пясняр. Незалежна ад афіцыйных званняў, ён годна нясе імя Народнага Паэта. У беларусаў — Купала. У азербайджанцаў — Бахціяр Вагабзадэ. Будучы паэт нарадзіўся 16 жніўня 1925 года ў сям'і рабочага. У 1942 годзе паступіў на філалагічны факультэт Бакінскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Падчас навучання быў адным самых актыўных сяброў літаратурнага гуртка, якім кіраваў выбітны творца і педагог Мір Джалал Пашаеў. Першая публікацыя Бахціяра Вагабзадэ выйшла ў 1943 годзе ў азербайджанскай «Літаратурнай газеце». У 1945-м, яшчэ студэнтам, ён быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Азербайджана па рэкамендацыі яго старшыні — Самеда Вургуна. Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1947 годзе паступіў у аспірантуру. З 1948-га выходзяць яго кнігі: «Мае сябры», «Вясна», «Спеў сяброўства» і інш. Напісаная ў 1959 годзе паэма «Гюлістан», прысвечаная трагедыі падзеленага на часткі роднага краю, прынесла яму сусветную славу. Пасля гэтага яго пачалі пераследваць і звольнілі з універсітэта, дзе ён выкладаў. Два гады ён не працаваў. Гейдар Аліеў, стаўшы першым сакратаром ЦК КП Азербайджанскай ССР, дапамог паэту вярнуцца ў родны ўніверсітэт. Нягледзячы на загад з Масквы пра фізічнае знішчэнне паэта, Гейдар Аліеў заўжды апекаваўся ім.**

**У 1951 годзе Бахціяр Вагабзадэ абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Лірыка Самеда Вургуна», а доктарскую ступень атрымаў за даследаванне «Жыццё і творчасць Самеда Вургуна». Артыкулы навукоўца, прысвечаныя азербайджанскаму фальклору, класічнай і сучаснай літаратуры, а таксама яго публіцыстыка на гістарычную тэму складаюць шэсць кніг. Творы паэта перакладзеныя на англійскую, французскую, нямецкую, персідскую, турэцкую, польскую, іспанскую, венгерскую мовы, а таксама на мовы народаў былога Савецкага Саюза. Аўтар больш як 20 буйных паэм, драматург, ён меў яшчэ і славу педагога — сорак гадоў выкладаў у Бакінскім дзяржаўным універсітэце, быў яго прафесарам. З'яўляўся дзейсным членам Нацыянальнай акадэміі навук Азербайджана. Адным з першых Бахціяр Вагабзадэ быў уганараваны галоўнай узнагародай сучаснага Азербайджана — ордэнам «Незалежнасць». Акрамя таго, Бахціяр Вагабзадэ меў званне Заслужанага дзеяча мастацтваў (1974), быў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Азербайджана (1975) і СССР (1984). У 1985 годзе атрымаў званне Народнага паэта, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета і Парламента сваёй краіны. Ён сышоў у іншы свет 13 лютага 2009 года, пакінуўшы па сабе больш як семдзесят паэтычных зборнікаў і дваццаць паэм, дзве манаграфіі, сотні артыкулаў, а галоўнае — памяць пра яго жыве ў народзе, імя яго шануецца на самым высокім дзяржаўным узроўні. Паводле распараджэння Прэзідэнта Азербайджана спадара Ільхама Аліева, 90-я ўгодкі паэта будуць шырока адзначацца па ўсёй краіне. Дзякуючы «ЛіМу» і перакладам Таццяны Сівец, Беларусь таксама далучыцца да святкавання юбілею сапраўды Народнага Паэта. Яму да апошняга дня пісалі лісты людзі, якіх ён ніколі ў жыцці не бачыў: раіліся аб жыцці і літаратуры. Праводзіць Песняра ў апошні шлях з універсітэта да ганаровай алеі прыйшлі дзясяткі тысяч яго прыхільнікаў, сябры, студэнты і ўся эліта Азербайджана.**

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ісфандзіяр Бахціяр аглы ВАГАБЗАДЭ**

## Бахціяр ВАГАБЗАДЭ



### ***

*Жыццёвы вынік — некралог. —*
*Апошні ўздых — і лёг у лог.*
*Жыццё перад вачыма ўраз —*
*Усё! — ўкладзецца ў тузін фраз.*
*Калі б паўстаць нябожчык змог*
*Ды прачытаць свой некралог*
*І як чужы, нібы здалёк,*
*Зірнуць здалеў на ўласны лёс!*
*Што б ён сказаў часінай той,*
*Ці смех пачулі б мы, ці стогн?*
*Бо кожны ведае здаўна:*
*Спадзеваў шмат, а смерць — адна.*
*І колькі б мараў ні люляў,*
*Усім адзін канец — зямля!*
*Мы марым жыць, рабіць, ствараць…*
*Задумаў шмат, ды мала спраў.*
*Няма мяжы для мрояў, ды*
*Зіма завейвае сляды,*
*Імкненні, прагу чысціні.*
*І я прашу: не падмані!*
*У некралог мой дапішы*
*Надзею, што жыве ў душы.*

### Сэрца

*Я па вачох тваіх сумую карых.*
*Я па тваіх слядах іду ўначы,*
*Ці з вышыні зрываюся Ікарам,*
*Ці голубам імкнуся ў далячынь.*
*А ты мяне не бачыш і не чуеш,*
*Нібыта і няма мяне зусім.*
*Заранкаю ўва сне маім начуеш,*
*Ды раніцою растаеш як дым.*
*Падумаў я, з раптоўным цёмным болем*
*Ў грудзях адчуўшы пустату і тло,*
*Што сэрца маё скрадзена табою,*
*Не — у цябе яго ніколі не было.*

### ***

*Хай жыцця майго знічка палае ярчэй,*
*Хай забудзецца сонца спаліць далягляд.*
*На мяжы сваіх дзён я спазнаў, як пячэ*
*Залатое каханне, анёльскі пагляд.*

*За хвіліну да цемры вышэйшы агонь.*
*Мы кахаем да скону апошні свой май.*
*Я прашу цябе, сонейка, абдымай,*
*Не пакінь майго сэрца без промня*
*свайго!*

*Гэта золкае лісце — прыкмета зімы,*
*Гэта ўжо не світанне, а ціхі сыход.*
*Затрымай мяне, шчасце маё, і вазьмі*
*За руку. Ты адна мне ратунак з грахоў.*

*За хвіліну да цемры вышэйшы агонь.*
*Мы кахаем да скону апошні свой май.*
*Я прашу цябе, сонейка, абдымай,*
*Не пакінь майго сэрца без промня*
*свайго!*

*Хай не згасне мой дзень, мой вясновы*
*матыў!*
*Шмат я песень спяваў, ды, спаткаўшы*
*цябе,*
*Буду песняю рэшняю спальваць масты*
*Над кахання ракой, што за мора*
*глыбей!*

*За хвіліну да цемры вышэйшы агонь.*
*Мы кахаем да скону апошні свой май.*
*Я прашу цябе, сонейка, абдымай,*
*Не пакінь майго сэрца без промня*
*свайго!*

### Строфы

*З тае пары, як мы*
*сустрэліся раптоўна,*
*як да рукі рука*
*дакранулася няўзнак,*
*прабеламі ў радку*
*між намі не прадонні,*
*а ростані на год,*
*сустрэчы — да відна.*

*Не можам разам быць.*
*Нібы дурная звычка —*
*чакаць цябе — і зноў*
*чакаць цябе, чакаць.*
*Вятрыскі цягнікоў*
*усе шляхі падлічаць*
*і рэшту раздадуць —*
*у ранішніх званках.*

*Чым долей я іду,*
*тым шлях мой*
*карацейшы.*
*Чым мы з табой далей,*
*тым бліжай да цябе.*
*Мы будзем разам, вер,*
*хай гэта вера цешыць.*
*Кладзецца кожны крок*
*зярняткам у сяўбе.*

*Ты кожны раз мяне*
*інакшай сустракаеш!*
*Я ў соты раз хачу*
*спазнаць цябе да дна!*
*Я і ў сто першы раз*
*ізноў цябе шукаю,*
*бо ты павек мая*
*адзіная, адна!*

*Сыходзяць цягнікі,*
*сплываюць цеплаходы…*
*Ляціць ад краю ў край*
*самотны самалёт…*
*Здаецца часам мне,*
*што змерыць можна*
*годам*
*хвіліну, покуль ты*
*не скажаш мне: «Алё».*

*Ну што ж, якой бяды,*
*ці днём, ці годам болей?*
*Калі я ўбачу дом,*
*дзе свеціцца акно…*
*У час сустрэчы нас*
*было заўсёды двое,*
*ды ў ростані заўжды*
*з табою мы — адно!*

*І — вось жа дзіва! — я,*
*калі нарэшце разам,*
*калі здаецца, што*
*і не глядзеў здалёк,*
*сумую па табе,*
*як па сваіх паразах,*
*сумую па табе,*
*мой светлы матылёк!*

*У чым жа тут сакрэт?*
*Змяняюцца часіны,*
*Ёсць ва ўсяго мяжа —*
*ў расстанні і жыцці!*
*Ды я іду ізноў*
*знаёмай пуцявінай,*
*каб адшукаць цябе,*
*каб зноўку мець працяг.*

*Ад хвілі, калі мы,*
*каханая, не разам,*
*сумую па табе*
*ад часу, як былі*
*з табою мы ўдваіх,*
*ад часу, калі раптам*
*датknуліся і рук*
*ужо не разнялі…*

**З азербайджанскай.**
**Пераклад**
**Таццяны СІВЕЦ**



Фота з сайта artmisto.com.

# Калейдаскоп шэдэўраў

**Выбраныя творы вядомых айчынных майстроў можна пабачыць на выстаўцы «Беларусь за гады незалежнасці. Лепшае», якая адкрылася ў Цэнтры сучасных мастацтваў.**

Упершыню экспазіцыя прэзентавалася падчас святкавання Дня Незалежнасці нашай краіны ў Палацы Рэспублікі. Каб працягнуць знаёмства шырокай публіцы з творчасцю выбітных землякоў, выстаўка «пераехала» Цэнтр сучасных мастацтваў. Да ўвагі наведвальнікаў — жывапіс, графіка, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.

Экспазіцыю склалі творы, якія па праву лічацца аднымі з самых яркіх у сучаснай беларускай арт-прасторы. Ад кожнага мастака прадстаўлена па адным творы.



*Работа Віктара Нямцова.*



*Раіса Сіплевіч «Беражніца». 2004 г.*

Сярод іх — работы Міхаіла Савіцкага, Гаўрыіла Вашчанкі, Леаніда Шчамялёва, Арлена Кашкурэвіча, Васіля Шаранговіча, Віктара Нямцова, Георгія Паплаўскага, Уладзіміра Пракапцова, Льва Гумілеўскага, Сяргея Рымашэўскага ды многіх іншых.

Работы розныя па настроі і тэматыцы, але ўсе так ці інакш звязаныя з гісторыяй і культурай нашага краю. На адных — прыгожыя беларускія пейзажы, іншыя прысвечаны нацыянальным традыцыям і абрадам. Сустракаюцца сюжэты з міфаў, легенд і казак, гістарычныя замалёўкі, партрэты выбітных айчынных дзеячаў і г. д.



*Фота Ганны Бізюковай.*

*Сяргей Гумілеўскі «Музыка». 2012 г.*

— Каб сабраць такую вялікую колькасць шэдэўраў пад адным дахам, спатрэбілася шмат часу, — распавяла дырэктар установы Наталля Шаранговіч. — Тут знаходзяцца работы з калекцый Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, Нацыянальнага мастацкага музея, творчых майстэрняў мастакоў… Некаторыя з іх — класічныя, але ёсць напісаныя сучаснай мастацкай мовай. Выстаўка атрымалася вельмі змястоўнай, яна яскрава адлюстроўвае развіццё айчыннай мастацкай школы ў апошнія два дзесяцігоддзі.

Паводле старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы, выстаўка можа даць адказ на пытанне «Што ўяўляе з сябе сучаснае беларускае мастацтва?». Яно беражліва захоўвае традыцыі, аднак не пазбягае навацый і эксперыментаў.

Выстаўка працуе да 22 жніўня.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Арганіст з Брэст-Літоўска

Памятаеце песню з кінастужкі «Вясёлыя вандроўнікі»: «Мы едем, едем, едем в далёкие края. Хорошие соседи, счастливые друзья»? Кампазітар Міхаіл Старакадомскі на працягу жыцця творы прысвячаў дзецям. А напісаны ім святочны марш «Перамога за намі» атрымаў высокае прызнанне.

Міхаіл Леанідавіч нарадзіўся ў Брэст-Літоўску ў сям'і галоўнага санітарнага інспектара флоту. Яго бацька — Леанід Міхайлавіч — удзельнік адной з першых паўночных экспедыцый 1911 — 1915 гадоў на параходах «Таймыр» і «Вайгач». Яму належыць адкрыццё нязведанай зямлі ў Паўночным Ледавітым акіяне (названа вострвам Старакадомскага). Маці — Ганна Іванаўна — выпускніца Харкаўскай жаночай гімназіі, выкладчыца. Пакуль дзеці Каця і Міша не падраслі, займалася іх выхаваннем. Вучыла грамаце, музыцы, спевам.

У 1909 годзе сям'я пераехала ў Пецярбург. Міхаіл паступіў у падрыхтоўчы клас Пецярбургскай мужчынскай гімназіі Л. Лянтоўскай, дзе пасля ўрокаў арганізоўваліся вучнёўскія канцэрты, у якіх ён ахвотна ўдзельнічаў. Хлопец захапіўся музыкай, пачаў іграць на фартэпіяна і ўжо праз два гады напісаў свой першы твор. А яшчэ праз год упершыню публічна выступіў як піяніст.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Старакадомскія пераехалі ў Крым, дзе Міхаіл атрымаў сярэднюю адукацыю і пайшоў у Чырвоную Армію. У 1922 годзе М. Старакадомскі быў дэмабілізаваны і паступіў у Маскоўскую кансерваторыю па класе фартэпіяна і аргана. Яго кіраўніком быў выдатны педагог і кампазітар Александр Гедзіке. У 1926 годзе скончыў кансерваторыю, а праз два гады — кампазітарскі факультэт пад кіраўніцтвам Мікалая Мяскоўскага. Паспяхова авалодаў кампазітарскай тэхнікай, інструментоўкай, педагагічнай работай. Пасля вучобы ў аспірантуры выступаў з сольнымі арганнымі канцэртамі і выкладаў аркестроўку ў Маскоўскай кансерваторыі (з 1947 года — прафесар).

У 1930-я гады творы М. Старакадомскага для аргана і аркестра выконваліся ў Францыі, Чэхаславакіі і ЗША. Была выдадзена аркестровая партытура канцэрта для аркестра, аднаго з самых значных дасягненняў савецкай музыкі таго часу.

Цікавыя і разнастайныя жанры твораў кампазітара: сімфанічная музыка, опера «Соцъ» паводле рамана Леаніда Лявонава, араторыя «Сямён Праскурынкаў», чатыры музычныя камедыі, рамансы, песні, харавыя творы, музыка да тэатральных і радыёпастановак. Аднак самае галоўнае — музыка для дзяцей. Міхаіл Леанідавіч напісаў каля сотні песень, музыку для дзіцячых фільмаў і спектакляў, сімфанічныя і фартэпіянныя творы для юнай аўдыторыі.

Маэстра цанілі і як музычнага крытыка, аўтара падручнікаў аркестроўкі і гісторыі музычных стыляў. У 1952 годзе прафесар М. Старакадомскі быў узнагароджаны Сталінскай прэміяй. Памёр у красавіку 1954 года ў Маскве.

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ**

# Смачна есці!

**У Цэнтры сучасных мастацтваў пачаў працу маладзёжны праект «Месцазнаходжанне» мастакоў Ганны Канапелька, Ігара Стахевіча і дуэта творцаў «Казунака» (Ташы Капюшон і Юрыя Сугоняка).**

Праект «Месцазнаходжанне» складаецца з трох экспазіцый і працуе ў трох асобных залах. Гэта першы выставачны вопыт у жыцці маладых мастакоў, якія, нягледзячы на ўзрост, задаюць сабе і ўсяму свету сур'ёзныя пытанні, разважаюць пра паходжанне чалавека, яго існасць і стасункі з прыродай.

Так, напрыклад, мастак Ігар Стахевіч у серыі «Зямля трохкутная» вызначае, што яна трохкутная не па форме, а па сутнасці. Мастак даводзіць, што чалавек ненавідзіць жывёл за тое, што тыя валодаюць абсалютнымі ведамі пра жыццё і смерць. Яго работы прадстаўлены ў трохкутнай форме. Спачатку карціны могуць нават спалохаць, але, прыглядзеўшыся, зразумееш, што аўтар заклікае берагчы стасункі з прыродай.



*Bazinato. Серыя «Зямля трохкутная».*



*Ганна Канапелька «Прыемнага апетыту!». 2015 г.*

Тэму працягвае серыя "У людзі" дуэта мастакоў «Казунака». Як кажуць самі мастакі, серыя «У людзі» — гэта своеасаблівая спроба стварыць казку для дарослых. На карцінах мастацкага дуэта можна ўбачыць выявы чалавека з рысамі жывёл. Цікава, як аўтары ў сваім праекце змаглі сумясціць рэальнае і казачнае, за кошт гэтага спалучэння ў гледача можа з'явіцца адчуванне прысутнасці на іншай планеце.

А вось серыя мастачкі Ганны Канапелька «Прыемнага апетыту!» прыкметна не падобная на папярэднія. Героі яе экспазіцыі — зайцы, якія ядуць, спяць, вырошчваюць канюшыну і дрэвы, гуляюць і нават медытуюць. Глядзіш на палотны, у вочы галоўным героям і заўважаеш, якія яны сумныя: на іх талерках ляжаць такія ж маленькія зайцы, і ўвесь гэты ружовы колер — падман. Мастачка перанесла сваіх герояў у чалавечае жыццё, дзе людзі гатовыя часам «есці» адзін аднаго.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Шлях да Высоцкага

**Брэсцкі гарвыканкам ухваліў ініцыятыву гараджан, і ў першую чаргу прадстаўнікоў мясцовага акадэмічнага тэатра драмы і аддзела турызму спарткомплексу «Брэсцкі», аб правядзенні ў горадзе над Бугам штогадовага міжнароднага фестывалю аўтарскай песні імя Уладзіміра Высоцкага. Нагодай для такога рашэння сталі дзве даты: паўвека таму Брэсцкая крэпасць прымала пераможцаў Усесаюзнага турыстычнага паходу моладзі. Тут адбыўся фестываль аўтарскай песні. А сёлета, 25 ліпеня, споўнілася 35 гадоў, як перастала біцца сэрца Высоцкага — акцёра, паэта, аўтара і выканаўцы ўласных песень. Дарэчы, Уладзімір Сямёнавіч неаднойчы бываў у Брэсце. Пасля таго як я прачытаў ледзь не ўсё з Высоцкага, што ў 1980-я выходзіла ў перыядычным друку і асобнымі кнігамі, прыйшло асэнсаванне яго творчасці: захацелася, каб аўтар «загаварыў» і па-беларуску.**

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

**Уладзімір ВЫСОЦКІ**

## Штрафныя батальёны

*Час артабстрэлу, мусіць, не настаў —*
*Гадзіна для пяхоты перадышкі,*
*Гадзіна толькі да вялікіх спраў:*
*Каму — да ордэна, ну а каму —*
*да «вышкі».*

*Гадзіна, не напішам ні радка —*
*Мальба багам вайны артылерыстам!*
*Такая доля ці нядоля ў штрафніка:*
*Нам не пісаць «…лічыце камуністам».*

*Гарэлку піць перад атакаю — мура!*
*Мы выпілі свае калісь у святы*
*й будзень,*
*І вось таму мы не крычым «ура» —*
*Са смерцю ў хованкі гуляцца моўчкі*
*будзем.*

*У штрафнікоў адзін закон, адзін канец:*
*Калі рубай фашысцкага бадзягу!*
*Калі грудзьмі не зловіцца свінец,*
*Медаль на грудзі зловіш за адвагу.*

*Дык біць штыком — ратунак галавы,*
*Рукой надзейней — не пачуеш болю.*
*Як застанешся ўсё-такі жывы,*
*Гуляй, галота, ад рубля і болей!*

*Чужым не зразумець маральных струн,*
*Як нішчым, разбіваем іх калоны.*
*Рыхтуйце лепей лес сабе для новых*
*трун,*
*Калі ідуць штрафныя батальёны.*

*Вось шэсць нуль-нуль. Абстрэлу час*
*настаў:*
*Ну, бог вайны, лупі без перадышкі!*
*Адна гадзіна да галоўных спраў:*
*Каму — да ордэна, а большасці —*
*да «вышкі»…*

## Выпадак у рэстаране

*Рэстаран, дзе карціны вісяць тут і там,*
*Запрашае: заходзьце, гуляйце!*
*За сталом адзінока сядзіць капітан.*
*«Можна сесці?» — спытаў я. —*
*«Сядайце…*
*Закуры!» — «Выбачайце, “Казбек”*
*не па мне…» —*
*«Добра, выпі! Вось посуд парожні,*
*Бо пакуль прынясуць… Выпі лепш*
*за мяне!*
*Будзь здаровы!» — «І буду, раз*
*можна…» —*
*«Ну, дык хто ты такі? —*
*запытаў капітан. —*
*Бачу, п’еш ты гарэлку са смакам!*
*А ці бачыў калі кулямёт альбо танк?*
*Рукапашную зведаў атаку?..*
*Сорак трэці. Пад Курскам я быў*
*старшыной.*
*І за спінай маёю — такое…*
*Усяго шмат было за маёю спіной,*
*Каб ты, хлопец, далей жыў спакойна!..»*
*Ён спрачаўся і піў. Ён спытаў пра гады*
*І крычаў, быццам быў я зануда:*
*«Паўжыцця я аддаў за цябе, малады, —*
*Ты ж сваё марнатравіш тут, юда!*
*Вось вінтоўку б табе ды паслаць*
*цябе ў бой!*
*Ты ж гарэліцу глушыш са мною!..»*
*Я сядзеў, бы ў акопе пад*
*Курскай дугой —*
*Там, дзе быў капітан старшынаю.*
*Усё больш ён хмялеў. Я, аднак,*
*не адстаў*
*І, здаецца, пакрыўдзіў дакорам.*
*Я пакрыўдзіў яго, як сказаў: «Капітан,*
*Ты ніколі не будзеш маёрам!..»*

## Брацкія магілы

*На брацкіх магілах не ставяць крыжоў,*
*І ўдовы на іх не рыдаюць.*
*Ляжыць ля падножжа букет васількоў,*
*І Вечны агонь палыхае.*

*Раней узлятала зямля да нябёс,*
*Цяпер тут — гранітныя пліты.*
*Скажыце, хто вызначыць кожнага лёс,*
*Як лёсы ў адзінае зліты?!*

*У Вечным агні — бачу спалены танк,*
*Гараць беларускія хаты.*
*Палае Смаленск і палае рэйхстаг,*
*Палае і сэрца салдата.*

*Не бачна ў жалобе ля помніка ўдоў —*
*Сюды ходзяць моцныя духам…*
*На брацкіх магілах не ставяць крыжоў,*
*А ў сэрцы — трывога і скруха.*

## Пра Сярожку Фаміна

*Я рос, бы ўся дваровая шпана:*
*Глушыў гарэлку, песні пеў начамі,*
*І не любілі мы Сярожку Фаміна,*
*Бо ён не быў, здавалася, адчайным.*

*Сядзелі мы аднойчы ў Фаміна:*
*Збірацца тут было для нас не нова…*
*Што пачалася страшная вайна,*
*Сказаў нам Молатаў у памятнай*
*прамове.*

*«Стары, — казалі мне, — хоць і вайна,*
*Але браню табе дае завод “Кампрэсар”.*
*Адмовіўся — Сярожку ж Фаміна*
*Збярог ад фронту бацька*
*(ён — прафесар!).*

*Я за Радзіму, што ў мяне адна,*
*Лью кроў сваю, а сэрца пратэстуе,*
*Бо лью я кроў і за Сярожку Фаміна,*
*А ён сядзіць і толькі час марнуе.*

*Цяпер ён ходзіць, пэўна, па кінах,*
*Дзе хроніка пра нас перад сеансам…*
*Сюды б хутчэй Сярожку Фаміна,*
*Каб зведаў ён, што значыць*
*фронт германскі.*

*…Закончылася ў рэшце рэшт вайна,*
*Як быццам скінулі з плячэй мы тоны*
*друзу…*
*Сустрэў на вуліцы Сярожку Фаміна, —*
*А ён… Герой Савецкага Саюза.*

**З рускай.**
**Пераклад Расціслава БЕНЗЕРУКА**

# Ноч з жыцця чалавека

**Віктар Баранаў (1950 — 2014) — украінскі пісьменнік, паэт, перакладчык. Галоўны рэдактар літаратурнага часопіса «Кіеў» («Київ»). Лаўрэат шматлікіх прэмій. За кнігу «Смерць начыста» («Смерть по-білому», 2005) атрымаў Міжнародную літаратурную прэмію імя М. Гогаля. З 2011 года ўзначальваў Нацыянальны саюз пісьменнікаў Украіны.**

Ноч — час паэтаў, рамантыкаў і злодзеяў. Ноччу чалавек застаецца сам-насам з сабою, чуе ўнутраны голас, які ўдзень губляецца сярод неабходна-дробязных спраў, мітусні і тлуму. А што калі гэтая ноч — апошняя?..

Над назвай рамана можна разважаць столькі ж, колькі чытаецца твор. «Смерць начыста»... А хіба жыццё — чарнавік?.. У сляпучай мітуслівай штодзённасці мы лічым, што яшчэ паспеем, яшчэ зробім, яшчэ скажам… Па чытанні рамана становіцца зразумелым — вось ён, вынік, рахунак, падсумаванне. Як так сталася, што толькі смерць — пачатак і сапраўднае?..

Галоўны герой — мужчына сярэдняга веку. Самотны, але не адзінокі. Сям’і няма, сяброў таксама, ёсць толькі знаёмыя — другасныя персанажы кнігі. Словам, чалавек звычайны. Звыклы. Простая жыццёвая філасофія — працаваць і жыць сумленна, без вялікіх узлётаў, але й без балючых падзенняў. Кахаў, хацеў ажаніцца — не склалася (па не залежных ад героя абставінах).

Адзін па адным да Станіслава прыходзяць дзіўныя і на першы погляд выпадковыя госці. Майстар, які рабіў яму камін, стары ўніверсітэцкі выкладчык, жонка памерлага знаёмага, былы аднакурснік, з якім герой не бачыўся вельмі даўно, колішні сусед па лецішчы, невядомы юнак, які нібыта памыліўся адрасам, поп-кадэбэшнік, кот і тры пеўні. Звычайныя пеўні, толькі… рускамоўныя. Балазе да іх з’яўлення чытач ужо паглыбіўся ў містычны настрой і ўспрымае пеўняў лагічна. Містычнасць падзей падкрэсліваецца з'яўленнем вялізнай каметы з палаючым хвастом.

«Гэта ўсё камета нарабіла», — падумалася мне, і ў гэтым была свая логіка. Каметы ва ўсе часы прыносілі або вяшчалі няшчасці: чуму, халеру, голад, вайну, землятрус, братазабойства дзеля трона… Але тое былі няшчасці для ўсіх. Чаго ж цяпер і тут жудаснае ззянне каметы накіраванае на мяне аднаго? У гэтую ноч мне абвесцяць вырак. Яны вызваляць самі сябе праз прысуд мне. Атрымліваецца, задаволяць свае да мяне прэтэнзіі? А калі так, то і яны таксама няшчасныя? І ім таксама камета насыпала ў душу прысак і попел горычы? І, пэўна ж (калі яны прыйшлі судзіць мяне), прычынай іх няшчасця з’яўляецца не хто іншы, а толькі я?..

> *Аддаючы належнае герою, варта падкрэсліць, што, азіраючыся ў мінулае, ён не шукае вінаватых і не апраўдваецца нават перад сабой, а гэта ўласцівасць годнага чалавека.*

Суд. Цьмянасць, недаказанасць (ці то праз недасведчанасць, ці то праз выкарыстанне надта простых псіхалагічных падыходаў), беспадстаўная пыха поруч з пампезнасцю. Аднак памерлыя прыйшлі не для таго, каб спагнаць са Станіслава сваю крыўду, абвінаваціць ці пакараць яго, а каб… даравацъ герою. Часам прасцей самому папрасіць прабачэння, чым прыняць яго ад іншых…




У творы ўдала й дарэчна выкарыстоўваецца рэтраспекцыя. Храналагічнае дзеянне рамана — толькі адна ноч, але перад вачыма чытача паўстаюць розныя падзеі з жыцця героя: успаміны дзяцінства, вучоба ва ўніверсітэце, ужо дарослыя стасункі... У дадатак — развагі пра соцыум ды месца чалавека як у ім, так і ў свеце.

«Смерць начыста» — спроба разабрацца, чаму пераважная большасць людзей абыякава ставіцца да свайго лёсу, да свайго жыцця. У штодзённай мітусні лёгка забыцца на тое, што час не вяртаецца, людзі сыходзяць, непрамоўленыя словы і няздзейсненыя ўчынкі так і застаюцца непрамоўленымі і няздзейсненымі. Аддаючы належнае герою, варта падкрэсліць, што, азіраючыся у мінулае, ён не шукае вінаватых і не апраўдваецца нават перад сабой, а гэта ўласцівасць годнага чалавека.

Паводле азначэння пісьменніка, у літаратуры існуе толькі адна тэма — чалавек і яго душа. І менавіта літаратура — як неспасцігальная духоўная субстанцыя — не дазваляе чалавеку счарсцвець, прызвычаіцца да прыніжэнняў. Віктар Баранаў не забываецца на болевыя кропкі асобы і — шырэй — грамадства, на сучаснасць ды, канечне, гумар.

Аповед у рамане вядзецца ад першай асобы, твор мае спавядальна-шчырую інтанацыю, што з першых старонак выклікае давер да героя. Жывая мова і лёгкі стыль апавядання дазваляюць атрымліваць асалоду не толькі ад зместу твора, але і ад формы.

Побыт у рамане ператвараецца ў метафізічны ключ да экзістэнцыі, разумення звыкла-звычайнага, здавалася б, жыцця… Сакавітыя побытавыя замалёўкі змяняюцца думкамі-развагамі. Сны, ліст каханай, успаміны, спадзяванні ствараюць цікавую панараму...

«Што я пакінуў пасля сябе?» — галоўнае пытанне экзістэнцыі ўвогуле і чалавечага жыцця ў прыватнасці.

«Што ж гэта за лёс выпаў мне? Здавалася — жыў правільна, як усе; ніколі не адчуваў згрызотаў і дакораў сумлення, што раблю нешта не тое і не так, раблю на шкоду іншым ці дадаю ім душэўных ран. Усведамляю ўласную далёкасць ад святасці, але ж не такі ўжо й безнадзейны грэшнік! І раптам на павароце шляху, калі большая яго частка пройдзена і можна азірнуцца ды падсумаваць нейкія рахункі, а там і «бренные пожитки собирать», лёс пасылае знаменне, знак, у якім ты бачыш лінію свайго жыцця. (…) Правільнасць твая і падабенства да «ўсіх» — пух на дзьмухаўцы: вось явіўся табе знак у абліччы сына, і пух той абляцеў, а трымаўся дагэтуль толькі таму, што існуе закон сусветнай інерцыі; яна цябе й несла праз дні і гады, праз тое, што было (як ты памылкова лічыў) тваім жыццём. Інерцыя мае здольнасць страчвацца ў моцы. І зараз — акурат той выпадак».

**Ліда НАЛІЎКА**

Алесь
КАЖАДУБ



# Завіруха

Адвячоркам разгулялася завіруха, аднак Аляксей ад сваіх планаў не адмовіўся. Калі ўжо вырашыў вырвацца ў Мінск, ніхто яго не спыніць, нават дырэктар школы Станкевіч.

А той, нібы мацёры вартавы сабака, ужо падыходзіў да яго, бразгаючы ланцугом.

— Не забыліся, Аляксей Канстанцінавіч?

— Пра што?

— Бацькоў Кабака наведаць. Вы ж яшчэ і да Курачаў не схадзілі?

Да бацькоў двоечнікаў Кабака і Курача ён сапраўды не хадзіў. Дакладней, спроба была. Мінулай нядзеляю ён з'ездзіў на ровары ў Першамайскае, якое калісьці называлася Кабыллем.

Прыехаў у вёску — і ўбачыў мужыка, які стаяў пасярод вуліцы. На шыі ў яго вісеў баян. Раз-пораз мужык шырока разводзіў мяхі, але намацаць патрэбныя кнопкі не мог. Баян усхліпваў і замаўкаў.

— Хто гэта? — спытаў Аляксей цётку, якая высірнула з-за плота.

— Кабак.

— А чаму п'яны?

— Палучка сёння.

Аляксей зразумеў, што пагаварыць з бацькам двоечніка яму не ўдасца.

— Кажуць, вы ўчора ў нас былі? — падышоў да яго на наступны дзень Мікола Кабак.

— Быў.

— А чаму ў хату не зайшлі?

— Твой бацька быў п'яны.

— Ён кожны дзень п'яны, — пацісную плячыма Мікола. — Маці дома была.

— Ты таксама сядзеў дома?

— Я замест бацькі на трактары ў полі араў.

Аляксей Канстанцінавіч гмыкнуў. Мікола Кабак, канечне, двоечнік, аднак жа вось арэ. Нягледзячы на трыццаць памылак ва ўчарашняй дыктоўцы, трэба ў чвэрці ставіць тройку. І з восьмага класа выпускаць. Усё роўна яму далей араць, а не ў інстытуце вучыцца.

Але Станкевіча ўсе гэтыя тонкасці не хвалявалі. Яму важна, каб класны кіраўнік правёў гутарку.

І тым не менш, Аляксей Канстанцінавіч накіраваўся ў Мінск.

На аўтобусным прыпынку ён убачыў цётку, абвязаную пуховай хусцінаю да самых вачэй, на нагах — бахілы. Цётка аказалася школьнай бібліятэкаркай Галінай Пятроўнай.

— І вы ў Мінск? — не паверыў сваім вачам настаўнік.

Галіна Пятроўна ў яго ўяўленні была старой бабаю, якой ужо не было сэнсу кудысьці ездзіць. Ёй было гадоў трыццаць, не меней. Да ўсяго яна была незамужкаю.

— Бу-бу-бу, — сказала з-пад хусціны Пятроўна.

— Аўтобус адмянілі? — зноў здзівіўся Аляксей. — Не можа быць. Яго яшчэ ні разу не адмянялі.

І сапраўды, у снегавой сумятні паказаліся два жоўтыя «вокі».

— Вось! — паказаў на «вочы» Аляксей. — А вы кажаце — завіруха.

Ён дапамог Пятроўне ўзлезці на прыступкі, падаў ванзэлак і ўскочыў у аўтобус. У салоне людзей было няшмат. У такую непагадзь толькі на печы сядзець, а не імчацца на спатканне з аднакурсніцаю.

Аляксей уладкаваўся каля акна. Пятроўна перад ім расхутала хусціну і ператварылася ў вельмі мілую асобу.

«Гэта таму, што асвятленне слабае, — падумаў Аляксей. — Пры дзённым святле зморшчынкі каля вачэй відаць».

Ён пачаў думаць пра жыццё. Месца на кафедры рускай літаратуры, да якой быў прымацаваны, яму не выпадала. «Вы, жадною толпой стоящие у трона…». Яго нават і ў натоўпе няма. Гібець у Крайску за сто кіламетраў ад Мінска? «Ёсць у свеце тры сталіцы: Мінск, Лагойск і Плешчаніцы». Гэты вершык у Крайску ведалі ўсе, ад першакласніка да выпускніка.

Ён цяжка ўздыхнуў. Тонкая шыя Пятроўны не давала засяродзіцца. Адкуль у іх бяруцца такія шыі?

Пятроўна паварушылася, і Аляксей зразумеў, што і ёй няўтульна.

«Цікава, куды яна намылілася? — падумаў ён. — Вось ёй насамрэч на печы трэба сядзець».

— Да дзяўчыны? — павярнула галаву Пятроўна.

Профіль у яе не горшы за шыю. На шчацэ румянец.

— Куды хачу, туды і еду, — буркнуў Аляксей.

— Грубіяніць ва ўніверсітэце вывучыліся? — усміхнулася бібліятэкарка.

Дзяўчынай ён не назваў бы яе нават у думках. Пры гэтым не мог не заўважыць выразны выгін усмешлівых вуснаў. Зрэшты, яны не горшыя, чым у Зойкі. А можа, і больш салодкія.

Ажаніўся б з Зойкаю, не прападаў бы ў заснежаных палях. Бацька Зойкі, ваенком, даўно вызваліў бы зяцька з палону. А вось не хочацца. Між іншым, дзесяцікласніцы ў Крайску нічога сабе. Адна Тома, дачка Станкевіча, чаго вартая.

Яму раптам зрабілася зябка.

— Кажуць, вас дырэктар абходжвае? — зноў павярнула да яго галаву Пятроўна. — Дахаты да сябе яшчэ не запрашаў?

Цёмна-шэрыя ў крапінку вочы смяяліся. Усе старыя дзеўкі чытаюць чужыя думкі ці толькі гэтая?

— Ды ў вас на лбе ўсё напісана, — хмыкнула Пятроўна. — Вы лепш да Ніны Шкель прыгледзьцеся. Сімпатычная.

Цяпер Аляксею зрабілася горача. Ніна сапраўды яму падабалася. Што, і пра гэта на лбе напісана?

— Анягож! — чмыхнула бібліятэкарка.

«Ведзьма!» — пакруціў ён галавой.

— Я яшчэ і сурочыць магу, — сказала Пятроўна. — Вашае шчасце, што мы ўжо ў Плешчаніцы прыехалі.

Яна пацягнула цяжкі ванзэлак па праходзе.

«Ну і не буду табе дапамагаць, — падумаў Аляксей. — Цяпер зразумела, чаму некаторыя ў векавухах заседжваюцца».

Нягледзячы на познюю гадзіну, на аўтастанцыі было поўна людзей.

— Аўтобусы не ходзяць, — сказаў мужчына ў кажуху. — Дарогі замяло ва ўсе бакі. Як бы начаваць тут не давялося.

Аляксей азірнуўся па баках. Начаваць у паўцёмнай халоднай зале не хацелася.

— Тут недалёка гасцініца, — падміргнуў мужчына.

— І я з вамі! — кінулася за імі Пятроўна.

Аляксей неахвотна ўзяў з яе рук ванзэлак.

— У госці да сяброўкі сабралася, — вінавата сказала Галіна, — усяго адзін слоік з варэннем паклала, і ўсё роўна сумку не падняць.

Упершыню яе тон Аляксею спадабаўся.

— А што ў камплекце да варэння? — строга паглядзеў на бібліятэкарку мужчына.

— Піражкоў напякла, сала кавалачак…

Пятроўна каялася, і гэта неяк мірыла з ёй. Яна яшчэ ўзяла Аляксея пад руку і прыхінулася, быццам бы шукаючы паратунку. Нягледзячы на бахілы, яна была лёгкая на нагу. Ён адчуў мяккі дотык клуба, і кроў рынулася ў галаву. Якраз як з Зойкаю…

Кудаса ледзь не збівала з ног. Снег хвастаў па твары да болю ўваччу.

Гасцініца, на шчасце, была побач са станцыяй. Моцна тупаючы нагамі, яны ўваліліся ва ўтульнае цяпло, залітае яркім святлом.

— З аўтобуса? — з усмешкаю сустрэла іх пажылая дзяжурная. — Якраз адзін пакой застаўся. І дзяўчыне месца знойдзецца.

Аказваецца, для шчасця не так шмат і трэба. Ложак з чыстай бялізнаю, гарачая батарэя, а за акном завея.

— Шкада, крама зачыненая, — сказаў сусед.

Ён працаваў аграномам у Завішыне, зваўся Кастанцінам.

— Навошта нам крама? — спытаў Аляксей, складваючы дыван.

Яму хацелася як мага хутчэй залезці ў ложак і накрыцца коўдраю з галавой.

— Схадзі да сваёй кралі, — сказаў аграном. — Па-мойму, у яе ёсць.

— Што ёсць? — знерухомеў Аляксей, адчуваючы, што ў цяпле ў яго загарэўся твар.

— Бутэлька! — здзівіўся Канстанцін. — Калі ў госці едзе, значыць, з бутэлькай. Я б такую нізавошта не ўпусціў.

— Дык у чым справа? — насупіўся настаўнік.

— У мяне ўжо двое на лаўцы сядзяць: аднаму тры, другому чатыры, — уздыхнуў аграном. — Але вось сустрэну такую, як твая, і на ўсё забываюся. Нябось, салодкая?

Ён падміргнуў Аляксею. Той намацаў рукою дзверы і выкаціўся ў калідор. Папаў у нерат, ні ўзад, ні ўперад…

— Так і ведала, што не зберагу, — упёрлася кулачкамі ў бокі Пятроўна. — Не трэба было даваць вам сумку, ніколі не здагадаліся б, што там віно.

— Гэта аграном… — прамармытаў Аляксей.

У кароткім халаціку Пятроўна была неверагодна прыгожая. Зморшчынкі каля вачэй у яркім святле кудысьці прапалі.

— Заходзьце праз пятнаццаць хвілін, — загадала бібліятэкарка. — І захапіце шклянкі.

— Я ж табе казаў! — падскочыў з ложка Канстанцін. — У такіх паненак заўсёды ёсць.

Ён дастаў з чамадана чыстую кашулю, пераапрануўся, абцёр твар і шыю адэкалонам.

— Хочаш? — працягнуў ён бутэлечку Аляксею.

— Не трэба.

Чамусьці Аляксею было непрыемна глядзець на важданіну агранома. Збіраецца, як паляк на вайну. Падобна да таго, што не толькі па бульбе спецыяліст.

— Ты, галоўнае, не тушуйся, — сказаў, прыдзірліва аглядаючы сябе ў люстры, Канстанцін. — Лепш, канечне, каб яна з сяброўкай была, але і так будзе добра. Ніколі не ведаеш, дзе пашанцуе, а дзе не. Закон жыцця!

«Пра што ён? — таксама паглядзеў на сябе ў люстра настаўнік. — Мне і не трэба нічога. Да Зойкі на спатканне еду».

У Пятроўны да іхняга прыходу ўсё было падрыхтавана. На стале стаяла бутэлька «Варны», на сурвэтцы горкаю ляжалі піражкі, у талерцы — наскрыленае сала.

— Нож у дзяжурнай ёсць, а штопара няма, — сказала, паказваючы на бутэльку, Пятроўна. — Давядзецца закусваць без выпіўкі.

— Ніколі! — накіраваўся да стала аграном.

Ён узяў бутэльку, паставіў на падлогу, вялікім пальцам правай рукі націснуў на корак і прапхнуў яго ўсярэдзіну.

— Прапалі дванаццаць капеек, — уздыхнула Пятроўна. — З коркам бутэлькі не прымаюць.

— Я ўмею выбіваць корак далонёю, але так хутчэй, — сумеўся Канстанцін.

«Дзе гэта яна навучылася мужыкамі круціць? — падумаў Аляксей. — Няўжо ў Крайску?»

— Гэтаму не вучацца, — хмыкнула Пятроўна. — Талент патрэбны.

Аляксей кректануў. Так і будуць па чарзе з аграномам чырванець.

— Ну, за гаспадыню! — падняў шклянку Канстанцін. — Я яшчэ на станцыі зразумеў, што з гэтай парачкай не прападзеш.

«Якая парачка? — глынуў са шклянкі Аляксей. — Я наогул упершыню ў жыцці яе бачу».

Ён сапраўды ўпершыню разгледзеў шэрыя вочы Пятроўны, цяжкую хвалю русых валасоў, поўныя грудзі і гнуткую спіну.

Хмель стукнуў у галаву. Краем вока ён заўважыў круглую каленку ў разрэзе халаціка.

— А вось гэта не пра вас, — захінула халацік Пятроўна. — Спачатку гаварыць навучыцеся.

— Пра што… гаварыць? — праглынуў камяк у горле Аляксей.

— Узяўся за грудзь — гавары што-нібудзь! — зарагатаў аграном.

«Дубіна!» — скасавурыўся на яго настаўнік.

— Ну хоць бы тост скажыце! — пагладзіла яго па спіне Пятроўна.

— Прапаную выпіць за тое, каб скончылася завіруха і мы ўсе маглі ехаць па сваіх справах!

Аляксей чокнуўся спачатку з Пятроўнай, потым з аграномам.

— Кепскі тост, — узяў са стала піражок Кастанцін. — Тут лепей, чым у аўтобусе.

— Гэта вам лепей, — зрабіла глыток Пятроўна, — а маладым трэба ў Мінск. Навошта я купляла такое моцнае віно?

— Віно ў самы раз, — зноў разліў па шклянках Канстанцін. — У нашай краме такога няма.

— Зірніце ў акно, — усміхнулася Пятроўна. — Хтосьці наваражыў.

Завея за акном сціхла. З апраметнай цемры зрэдзь выплывалі на святло вялікія сняжынкі і зніклі.

— Хадзем на неба паглядзім? — прапанавала Пятроўна. — Раптам там зоркі?

— Вы ідзіце, а я спаць, — дапіў віно аграном. — Раніцай на першы аўтобус трэба паспець.

— Пайду па паліто, — падскочыў Аляксей.

Ён раптам зразумеў, што самае прыемнае — гэта выконваць загады Пятроўны, няхай і недарэчныя.

На вуліцы была сапраўдная зімовая казка. Пад платамі ляжалі пухнатыя сумёты, у небе выразна маляваліся вецце дрэваў у густых махрах, пад цяжарам наліплага снегу прагінаціся праваады між слупамі.

— А дзе зоркі? — задрала галаву Пятроўна, спатыкнулася і ўхапілася за руку Аляксея.

Ён, быццам чакаў гэтага, прыцягнуў яе да сябе і прыпаў доўгім пацалункам да салодкіх ад віна вуснаў. Гэта быў сапраўдны пацалунак, хмельны і прагны.

Пятроўна нешта прамармытала. Аляксей, не адрываючыся ад вуснаў, прасунуў рукі ў прарэх між гузікамі паліто і моцна абхапіў яе за талію. Пятроўна ўсё-ткі адштурхнула яго і засмяялася. Іх вочы знаходзіліся на адным узроўні, аднак Аляксею не ўдавалася злавіць позірк Галіны.

— Заяву падала, — сказала Пятроўна.

— Якую заяву?

Ён зноў пацягнуўся да салодкіх вуснаў.

— На звальненне, — упёрлася рукамі яму ў грудзі Пятроўна. — З'язджаю з Крайска.

Аляксей адчуў, як за каўнер папоўз холад. Сусветная сцюжа скавала зямлю. Аляксей не мог варухнуць ні рукой, ні нагой. У тое самае імгненне, калі ён быў гатовы застацца з Пятроўнай у трэцяй са сталіц назаўсёды, яго адкінулі ўбок.

«Жартуеш?» — узмаліўся ён пра сябе.

— Не жартую, — цвёрда сказала Пятроўна.

Яна адступіла на крок і пачала страсаць снег з футравага каўняра.

— І вы тут не застанецеся, — працягвала Пятроўна. — Дырэктар гэта таксама ведае, так што не бойцеся.

«Каго я павінен баяцца?» — мільгнула ў галаве.

— Томы Станкевіч, — чмыхнула Пятроўна. — Яна першая нявеста ў Крайску, якраз для вас. Але Ніна лепшая. Праўда, вам і яна не дастанецца. На наступны год вы ўжо будзеце ў Мінску.

«Адкуль яна ўсё ведае?» — здзівіўся Аляксей.

— Тут і ведаць няма чаго, — махнула рукой Пятроўна. — Хадзем у гасцініцу, халадна.

— А я да вас дзяўчынку падсяліла, — сказала Пятроўне дзяжурная, уважліва гледзячы на Аляксея. — Таксама са станцыі.

— Вось і добра, — кіўнула Галіна. — Удзвюх спаць весялей.

Яна ішла па калідоры, нашмат чужэйшая, чым да гэтага дня. І Аляксей разумеў, што гэта незваротна.

«Ёсць у свеце тры сталіцы — Мінск, Лагойск і Плешчаніцы», — круціцца ў галаве вершык.

Вершык быў бязглузды, але ў ім хавалася ўся праўда пра жыццё Аляксея.

# Абаяльнасць і заганы



*«Маёнтак у Верхняй Аўстрыі».*

Карціны Густава Клімта наведалі Мінск на мінулых выхадных у межах Арт-Базару. Усяго два дні госці Палаца мастацтваў маглі атрымаць эстэтычную асалоду ад поўнапамерных рэпрадукцый знакамітага мастака, заснавальніка аўстрыйскага мадэрнізму. Выстаўлялася 30 работ: ад мяккіх лірычных пейзажаў да адкрыта эратычных кампазіцый.

Размясціўшыся ва ўтульных крэслах-мяхах на тэрыторыі невялікай залы, таямніча абвешанай чорнай тканінай, гледачы змаглі ўбачыць яшчэ і фільм «Прыватнае жыццё шэдэўраў. Гюстаў Клімт "Пацалунак"». Дакументальная стужка раскрыла цікавыя падрабязнасці стварэння адной з самых прыцягальных карцін майстра, а таксама некаторыя факты з яго асабістага жыцця, у тым ліку і даволі скандальныя.

Густаў Клімт — выхадзец з XIX стагоддзя, нарадзіўся амаль у творчай сям'і недалёка ад Вены: бацька быў ювелірам і гравёрам, а маці марыла пра музычную кар'еру. Характэрна, што ўсе яго браты, як і ён, сталі мастакамі. Дарэчы, у студэнцкія гады юны Густаў спецыялізаваўся на архітэктурным жывапісе, быў дэкаратарам, упрыгожваў фрэскамі тэатры і яшчэ не праслававіўся як працаўнік акадэмізму ў творчасці. Пасля смерці бацькі і брата майстар рэзка мяняе стыль, сыходзіць ад кансерватызму, выкарыстоўваючы алегорыі і шматлікія арнаменты — такім мы ведаем Клімта па самых знакамітых работах.

Першае, што заўважаеш у «Пацалунку», — царскі каларыт і ўнутранае ззянне. Шмат у чым эфект дасягаецца за кошт багацця залатога колеру, дакладней, самога сусальнага золата, якое мастак выкарыстаў як фарбу. Адлюстраваныя на палатне мужчына і жанчына ўяўляюць класічную закаханую пару, але глядзяцца па-асабліваму ўзнёсла, шчасліва і ў той жа час адасоблена, як бы ўбаку ад навакольнага свету. Не адразу зразумела, на фоне чаго знаходзяцца героі: ці то касмічнай прасторы, ці то абвітай кветкамі паляны на заходзе сонца.

Побач з мадэрнісцкімі палотнамі важкае месца ў творчасці Густава Клімта займаюць пейзажы, блізкія да рэалізму, напоўненыя святлом, паветрам, спакоем, лёгкасцю — як пасля дажджу. На выстаўцы ў Палацы мастацтваў можна было ўбачыць такія работы, як «Балота», «Сланечнікі», «Макавае поле», «Возера», «Царква ў Касонэ», «Алея ў парку палаца Камер, ці Садовая алея з курыцамі».

Мастак не любіў аналізаваць сваю творчасць, прапануючы гледачам самім складаць пра яго ўражанне — непасрэдна ўспрымаючы карціны. Густаў Клімт часта адлюстроўваў на палотнах жанчын — у чароўных адзеннях альбо ўвогуле без іх, з мноствам упрыгожванняў, якія ствараюць асаблівы казачны каларыт («Дзева», «Юдзіф», «Афіна-Палада», «Музыка», «Нявеста», «Дама з веерам»).

Натхніўшыся ўплывам такіх французскіх мэтраў, як Поль Гаген і Анры Тулуз-Латрэк, Густаў Клімт стварае карціну «Дама ў капелюшы і баа з пёраў», якая таксама ўвайшла ў мінскую экспазіцыю. На палатне ўжо няма яркіх дэкаратыўных арнаментаў, акцэнт зроблены на твары жанчыны, як быццам затанулым у футры. Характар гераіні падаецца моцным і самадастатковым — яна гаспадыня свайго лёсу, чаго не скажаш пра дзяўчыну з таго ж «Пацалунка», якая нібы знаходзіцца ў залежнасці ад спадарожніка.

Адна з самых неверагодных карцін на выстаўцы — «Тры ўзросты жанчыны». Намаляваная дама прадстаўлена як квітнеючая дзяўчына з дзіцем на руках і згорбленая старая ў роспачы. Сэнс палатна заснаваны на кантрастах жыцця і смерці, радасці і роспачы, а таксама супастаўленні метафарычнасці і рэальнасці быцця.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Чэшскае натхненне



*«Аўтапартрэт II». 2012 г.*

У Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага працуе выстава жывапісу чэшскай мастачкі Івы Мразкавай «Нерэальны свет».

Іва Мразкава не толькі мастачка, але і ілюстратар і скульптар. У Мінск атрымалася прывезці толькі карціны, але і гэтага хапіла, каб правесці беларускага гледача ў «Нерэальны свет».

Іва Мразкава нарадзілася ў невялікім мястэчку Опава, што на паўночна-ўсходняй мяжы Чэшскай рэспублікі і Польшчы. Скончыла сярэднюю, а пасля Вышэйшую школу прыкладнога мастацтва ў Празе па спецыяльнасці «Тэкстыльны дызайн». Потым яе запрасілі для навучання ў Акадэмію П'етра Ванучы ў Італію. Па заканчэнні вучобы Іва з'ехала ў Люксембург, дзе пачала прафесійную кар'еру і дзе сёння працуе. Увогуле, малюе творца з чатырнаццаці гадоў у адмысловай тэхніцы жывапісу — ручнога ткацтва: на палатне ўзнікае спецыфічная перспектыва, якая зусім не залежыць ад перспектывы накладзеных на палатно фарбаў. З 2007 года творца захапілася скульптурай, а пасля пачала займацца ілюстрацыяй дзіцячых і гістарычных кніг. З 2014 года Іва Мразкава — ганаровы консул Чэшскай Рэспублікі ў Люксембургу.

У аснове экспазіцыі — тканыя палотны, якія адразу захапляюць магічным настроем. Яны пабудаваныя на фантастычных сюжэтах, дзе вялікую ролю іграюць звычайныя прадметы побыту («Навес», «PlayStation») альбо з'явы прыроды («Кропля вады», «Трава»). Таксама сярод работ мастачкі можна ўбачыць некалькі аўтапартрэтаў, разбітых па лічбах: калі глядзіш на першы, складваецца ўражанне, быццам кожны наступны — яго працяг. Асобным шэрагам у экспазіцыі прадстаўленая цікавая вобразамі серыя палотнаў «Карціны з Нью-Ёрка». Усяго экспануецца каля трыццаці работ, створаных з пачатку 2000-х гадоў да сённяшняга часу.

Адкрыццё выстаўкі праходзіла ў цёплай, шчырай атмасферы. Пасол Чэхіі ў Беларусі Мілан Экерт павіншаваў Іву і пажадаў сіл і натхнення. Старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца падзякаваў творцы за магчымасць бачыць яскравы прыклад еўрапейскага мастацтва ў сэрцы Мінска. Сама ж Іва шчыра гаварыла пра нашую краіну, звярнуўшы ўвагу на гасціннасць беларусаў. Цяпер работы творцы знаходзяцца ў краінах Еўропы і ў ЗША. Мастачцы вельмі прыемна, што, яна знайшла свайго гледача і ў Беларусі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Палітра нябёсаў

Выстаўка Аляксандра Сільвановіча «Неба» адкрылася ў сталічнай Галерэі Мастацтва з нагоды юбілею мастака. Экспазіцыю склалі жывапісныя палотны, скульптуры, незвычайныя арт-аб'екты.

Упершыню праект быў прэзентаваны ў Гродне, а цяпер магчымасць пабачыць работы творцы з'явілася ў мінчан. Анёлы і знакі задыяка, сонца, зоркі і месяц, крылатыя пегасы і лятучыя караблі — мастак прадставіў публіцы ўласныя асацыяцыі са словам «неба». Аўтар запрашае наведвальнікаў «палётаць», паразважаць пра высокае.

Аляксандр Сільвановіч — мастак-манументаліст, удзельнік шматлікіх пленэраў у Беларусі, Літве, Польшчы, Грэцыі. Працуе адразу ў некалькіх відах выяўленчага мастацтва. Цікавіцца астралогіяй, рэлігіяй, міфалогіяй — гэтыя тэмы знаходзяць увасабленне ў яго работах.

Неба з'яўляецца для Аляксандра крыніцай натхнення. «Гэта асабістая творчая прастора, дзе жывуць мае думкі, мары, ідэі, — прызнаецца мастак падчас адкрыцця выстаўкі. — А таксама — тэрыторыя кахання, чысціні і свабоды».



*«Варажба II». 2015 г.*



*Фота Ганны Бізунковай.*

*«Сіні птах». 2015 г.*

Палотны, створаныя на халсце або дрэве, нагадваюць піктаграмы і арнаменты, якія хаваюць шмат сімвалаў і загадак. Зразумець іх адразу немагчыма — каля кожнага трэба затрымацца, паразважаць.

«Сонца», «12 месяцаў», «Знакі задыяка» — гэтыя ды іншыя работы адкрываюць гледачам непаўторны свет міфаў і казак. Прыцягваюць увагу незвычайныя скульптуры, арт-аб'екты — вялізныя птушкі і рыбіны, а таксама сапраўдная лесвіца ў неба са стылізаванымі прыступкамі.

Па словах аўтара, неба непарыўна звязанае з тэмай продкаў. На выстаўцы дэманструецца яго фамільны альбом, зроблены арыгінальным чынам: фотаздымкі сваякоў змешчаны на фоне гарадоў і вёсак, прадметаў побыту.

З юбілеем і адкрыццём выстаўкі аўтара віншавалі сябры і калегі, аматары яго творчасці. Яны адзначылі: работы творцы прыцягваюць глыбінёй і касмічнасцю, разнастайнасцю колераў. Пракаментаваў экспазіцыю намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Алесь Дранец. На яго думку, творы прасякнутыя асаблівай энергетыкай.

Работы Аляксандра Сільвановіча знаходзяцца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Полацкай мастацкай галерэі, Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, а таксама ў прыватных айчынных і замежных калекцыях.

**Ганна ПАЛЯКОВА**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ





Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк 13.08.2015 у 11.00
Ум. друк.11 арк. 3,72
Наклад — 2034.
Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1484 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12